Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 40 (4738) 11 кастрычніка 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі з 35-годдзем архіпастырскага служэння на беларускай зямлі. Кіраўнік дзяржавы пажадаў Мітрапаліту Філарэту здароўя, невычэрпных сіл, далейшых поспехаў у архіпастырскім служэнні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў XIII Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-2013 у Магілёве» з яго адкрыццём. «Гэты прадстаўнічы форум выконвае адказную місію: з дапамогай мастацтва ўмацоўвае згоду і ўзаемаразуменне паміж народамі. Невыпадкова цэнтрам яго правядзення стаў Магілёў — горад з багатымі духоўнымі традыцыямі, які ў 2013 годзе выбраны культурнай сталіцай Беларусі і СНД», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Дні культуры Расіі ў Беларусі плануецца правесці ў лістападзе. Цяпер Міністэрствам культуры Беларусі падпісаны праграмы супрацоўніцтва амаль з усімі абласцямі і рэгіёнамі Расіі. У ведамстве адзначаюць актыўнае ўзаемадзеянне з краінай-суседкай у сферы культуры.

✔ XX Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» збярэ прадстаўнікоў кінематографа з 36 краін блізкага і далёкага замежжа, паведаміў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Фестываль пройдзе з 1 па 8 лістапада. Як і ў мінулым годзе, асноўнай пляцоўкай паказаў конкурсных і пазаконкурсных праграм дакументальнага кіно стане кінатэатр «Мір».

✔ Дакументальная карціна «Цеплыня» беларускага рэжысёра Віктара Аслюка (вытворчасць Белвідэацэнтра) прызнана лепшым кароткаметражным фільмам XXIV Адкрытага фестывалю дакументальнага кіно «Расія». Фільм з'яўляецца лідарам па ўдзеле ў міжнародных кінафестывалях і колькасці ўзнагарод сярод карцін беларускага дакументальнага кіно апошніх гадоў.

✔ Гэтымі днямі ў Магілёве ў межах XIII Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-2013» праходзіць першая міжнародная выстаўка-продаж «Залаты майстар». Свае вырабы прадстаўляюць каля 100 майстроў з Беларусі, Расіі, Украіны і Літвы, сярод якіх пройдзе конкурс на лепшы майстар-клас па розных напрамках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Журы конкурсу ўзначаліць прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі фальклору Дорэл Косма (Румынія).

✔ Анлайн-канферэнцыя з народным артыстам Беларусі, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі, мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра, прафесарам Міхаілам Фінбергам на тэму "Новая беларуская песня" прайшла на сайце БелТА 9 кастрычніка. Задаваліся пытанні пра тое, ці задавальняе сёння музыкантаў і слухачоў якасць беларускай музыкі і тое, як яна прэзентуецца ў тэле- і радыёэфіры.

✔ У Віцебску адзначаюць 100-годдзе вядомай карціны Казіміра Малевіча «Чорны квадрат». У абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка малюнкаў, арт-аб'ектаў і інсталяцый удзельнікаў віцебскага творчага аб'яднання «Квадрат». Многія работы — гэта прысвячэнні Казіміру Малевічу.

Падрыхтавала Ярына РЫТАМІНСКАЯ



Фота Кастуся Дробава



Эдзі АГНЯЦВЕТ

## Слова пра маці

*Раней за ўсіх яна ўстае,*
*Пазней за ўсіх кладзецца.*
*Яна жыве, яна пяе, —*
*І дзецям лепш пяецца.*

*Ты рос, як цёплы каласок,*
*Пры месяцы і зорах.*
*Пачуеш мілае «сынок»,*
*Хоць будзе і за сорак...*

*За словам маці ў свет пайшлі*
*Маленства,*
*мара,*
*мова,*
*І мір, і мужнасць на зямлі —*
*Жыцця твайго асновы.*

*Каб не тужыла па начах, —*
*Ёй падрастай на ўцеху!*
*Хай будзе ў матчыных вачах*
*Пабольш іскрынак смеху!*

*Ты не шкадуй ласкавых слоў*
*Для роднай, для адзінай.*
*Адказвай маці на любоў —*
*Будзь верным, добрым сынам!*

### Пытанне да творцы

# Ці лёгка жанчыне быць пісьменніцай?



**Людміла Кебіч, старшыня Гродзенскага аддзялення СПБ:**

— Апошнім часам адкрыла для сябе, што ні жанчыны, ні мужчыны-пісьменнікі не могуць дакладна адказаць на гэтае пытанне. Таму што не ведаюць, як адчуваюць сябе, «лёгка» або «цяжка», тыя, хто не займаецца творчасцю.

Пісьменнікам няцяжка быць, калі ты ім нарадзіўся, калі ты заўсёды імкнешся пісаць і без гэтага жыцця не ўяўляеш. З другога боку — цяжка, і цяжка менавіта пісьменніцы-жанчыне, калі яна мае сям'ю, дзяцей. Жанчына-пісьменніца марудней рэалізуе сябе ў параўнанні з «моцным полам». Але яна парадуецца за сваіх калег-творцаў, таму што прывыкла дбаць пра іншых больш, чым пра сябе.

Кожнай з нас важна быць прынятай як пісьменніцы менавіта сваімі блізкімі. Бывае так, што творчыя памкненні не знаходзяць спагады, выклікаюць недавер, нават зайздрасць або агіду. Таму жанчына, якая здолела стварыць-захаваць сям'ю і рэалізавацца як творца, можа звацца гераіняй.



**Алена Брава, празаік:**

— Пачнём з таго, што жанчыне ў нашым соцыуме складаней, чым мужчыну, рэалізаваць свае правы на аўтаномію асобы, а без гэтага стаць пісьменнікам немагчыма. На выкананне ўсіх гендарных «абавязкаў», якія прадпісаны жанчыне соцыумам, часта траціцца ільвіная доля яе жыццёвага тэрміну. Таму нашай сястры, якая змагаецца за асабістае права быць творцай, даводзіцца весці барацьбу на некалькі франтоў, у тым ліку супраць стэрэатыпаў сваёй жа свядомасці, якія ўнушаюць, што яна найперш «берагіня ачага». І сёння актуальныя словы нямецкай пісьменніцы Крысты Вольф: «Жанчыны доўгі час жылі, не бяручыся за пяро. Потым яны пісалі — уласным жыццём, цаной яго».

Зразумела, заўсёды ёсць выбар: стаць маргіналам альбо прыняць навязаныя ўмовы. Жанчына, вымушаная думаць і пра дзіцёнка, часцей выбірае другое, а кампраміс непазбежна правакуе пастаяннае ўнутранае напружанне і незадаволенасць сабой, адбірае час у творчасці. Гэта асабліва сумна, бо проза беларусак, як і іх паэзія, валодае вялікім патэнцыялам, які, на маю думку, толькі пачынае раскрывацца.



**Маргарыта Прохар, паэтэса, празаік:**

— Пісьменнікам нагул быць няпроста. Таму што гэта вялікая адказнасць і вялікая праца. Ад жанчынпісьменніц, праўда, чакаюць большай цеплыні, рамантычнай узнёсласці, эмацыянальнасці. Гэта так. Але ім часам даводзіцца быць вельмі мужнымі. Варта ўзгадаць Яўгенію Янішчыц, Ніну Мацяш, якія, нягледзячы на выпрабаванні лёсу, столькі зрабілі для нашай літаратуры. Гэта сапраўдныя зоркі прыгожага пісьменства, святло іх творчасці натхняе нас і сёння. Яны даюць урок волі да жыцця і да працы — працы над тварамі і над сабой. Іх прыклад сведчыць: каб штосьці казаць чытачу, трэба гэта перажыць.

Акцыі

# Фабрыка настрою — у «Зубронку»

Другі этап мерапрыемства «Маладыя для маладых» прайшоў у межах штомесячнай сумеснай акцыі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» і Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра «Зубронак».



Фота Кірыла Лесавога

Нагадаем, першым этапам акцыі быў конкурс юных чытачоў, які ладзіўся ў ліпені. Падчас нядаўняй сустрэчы са сталічнымі гасцямі хлопчыкі і дзяўчынкі з чацвёртага ляснога атрада пазнаёміліся з кнігай-зборнікам казак «Фабрыка добрага настрою» і з самім маладым аўтарам Дзмітрыем Саўчыкам, рэдактарам выдання Вольгай Аляксеевай і прадстаўніком Выдавецкага дома «Звязда» Анастасіяй Ціханчук.

Маладога, таленавітага і сціплага Дзмітрыя, між тым, цяжка назваць пачаткоўцам. Першую казку васьмігадовага Дзімы на беларускай мове апублікавалі ў газеце «Мая сям'я» ў 1993 годзе. Дзмітрый імкнуўся да вышыні ў сферы музычнай. Сёння ён іграе на кантрабасе ў Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестры Міхаіла Фінберга.

Рэдактар выдання Вольга Аляксеева распавяла пра тое, што звычайна застаецца паміж аўтарам і рэдактарам: гэта змены, якія ўносяцца ў тэксты. І простае дзіцячае пытанне: «А колькі людзей трэба для стварэння адной кнігі?» сапраўды прымушае задумацца. Рэдактары, карэктары, мастакі, вярстальшчыкі… І кожны этап на шляху «нараджэння» выдання вельмі важны.

Які ж далейшы лёс кнігі? Прадстаўнік Выдавецкага дома «Звязда» Анастасія Ціханчук распавяла дзецям пра тое, як розныя выданні ўстановы трапляюць у бібліятэкі і на паліцы крам.

Госці пакінулі «Зубронак» ненадоўга. Неўзабаве — новыя сустрэчы з цікавымі людзьмі і цудоўнымі кнігамі.

**Дар'я КАРПАВА**

# Паспрачаемся з аўтарам?

У межах мерапрыемстваў, арыентаваных на папулярызацыю беларускай мовы і літаратуры, у Юрыдычным каледжы Белдзяржуніверсітэта адбылася сустрэча з вядомым паэтам, празаікам і публіцыстам Яўгенам Хвалеем. Супрацоўнікі бібліятэкі навучальнай установы падрыхтавалі стэнд, які прадставіў не толькі паэтычныя зборнікі і кнігі прозы шаноўнага госця, але і падборку яго новых публікацый у перыядычным друку.

Пачалася імпрэза віншаваннем Яўгена Хвалея з нагоды 50-годдзя яго творчай дзейнасці і атрыманням прэміі «Залаты Купідон» за кнігу «Прынцэса тусоўкі». Як зямляк Якуба Коласа пісьменнік не прамінуў распавесці пра свой коласаўскі сантымент, прыгадаў часы студэнцтва на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна, калі вучыўся разам з Алесем Разанавым, Віктарам Ярацам, Яўгеніяй Янішчыц ды іншымі вядомымі прадстаўнікамі свайго пакалення.

Аповесць «Прынцэса тусоўкі» нязменна і штогод згадваецца першакурснікамі ў ліку твораў, якія трапляюць у чытацкія абсягі і рэпрэзентуюць здабыткі сучаснай беларускай прозы. Відавочна, сюжэт аповесці, прысвечаны праблемам моладзевага жыцця так званай перабудовачнай пары, не пакінуў абыякавымі будучых юрыстаў. Пра гэта сведчаць не толькі шматлікія пытанні, але і іх сутнасць. Цікавіліся навучэнцы не толькі творчай гісторыяй аповесці, якую Яўген Хвалей выклаў даволі падрабязна. Нехта, напрыклад, выказаў сумненне ў слушнасці аўтарскага вырашэння канфлікту, калі ў фінале адна з галоўных герaінь — прынцэса тусоўкі і адмоўны персанаж — гіне, атруціўшыся газам. Пісьменнік нават мусіў адстойваць уласную пазіцыю, спрачацца з чытачамі. Выказваліся таксама сумненні ў тым, што барацьба за ўвагу і сімпатыі хлопца можа ў прынцыпе стаць прычынай забойства-згубы сапернiцы. Эмацыянальны градус кантакту падчас сустрэчы няўхільна ўзрастаў, што гаворыць пра ўменне пісьменніка трымаць увагу аўдыторыі, адчуваць яе настрой.

Напрыканцы госць прачытаў некалькі патрыятычных і любоўных вершаў, а таксама выканаў ускладзеныя на яго арганізатарамі ганаровы абавязак: вызначыў пераможцаў конкурсу насценных газет. Можна было пераканацца, што няма больш удзячнай і, адначасова, патрабавальнай аўдыторыі, чым моладзевая.

Пасля смерці маладзенькай «прынцэсы тусоўкі» яе добрай настаўніцы «раптам моцна захацелася, каб тыя іншапланецяне… прыляцелі і забралі яе з сабою на неба». Так і нам хочацца, каб больш сучасных беларускіх пісьменнікаў (а яны, на вялікі жаль, для многіх маладых людзей як тыя іншапланецяне), рупіліся пра далучэнне сённяшніх дзяўчат і хлопцаў да роднай літаратуры. Можа, тады больш аптымістычным падасца лёс беларускай мовы і айчыннага прыгожага пісьменства.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

# Не згаснуць агеньчыку...

Днямі ў гасцiннай зале публічнай бібліятэкі № 5 горада Мінска прайшоў юбілейны вечар паэтэсы Таццяны Бірчанкі, арганізаваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Павіншаваць Таццяну Яфімаўну прыйшлі студэнты і калегі па творчым цэху, сярод якіх — паэтэсы Ала Чорная, Вольга Нарына, Тамара Залеская, Іна Фралова, вядучая сустрэчы. У сваіх выступленнях яны яшчэ і цудоўна дэкламавалі вершы юбіляркі. Слова ўзялі паэт, празаік, гумарыст Павел Саковіч, празаік Сяргей Трахімёнак. Прыемным падарункам для прысутных стала песня на словы Т. Бірчанкі ў выкананні паэтэсы Аліны Легастаевай.

Творчасць юбіляркі шматпланавая і вельмі індывідуальная. Таму не дзіўна, што паэтэса знайшла свайго чытача і ў інтэрнэтпрасторы, якую яна апошнім часам пачала актыўна асвойваць. На працягу амаль года Таццяна Бірчанка з'яўлялася рэдактарам конкурснай пляцоўкі «Сем дзён — адзін». Яна не толькі натхняла і падтрымлівала канкурсантаў, але і не давала згаснуць паэтычнаму агеньчыку.

За шматгадовую літаратурную працу і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Таццяна Бірчанка была ўзнагароджана Ганаровай граматай СПБ.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Ідэальнае месца для медалёў

Выстаўка «Медалі. Жэтоны. Малюнак» мастака-скульптара Валерыя Калясінскага адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.





Жэтон з выявай Якуба Коласа.

Член Саюза мастакоў Беларусі Валерый Калясінскі — выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў. Працаваў скульптарам у акадэмічных творчых майстэрнях, вучыўся ў аспірантуры роднай альма-матар, карпатліва даследаваў беларускія і звязаныя з нашай краінай медалі, ствараў уласныя.

— З задавальненнем прадстаўляю свае работы ў доме, дзе жыў Якуб Колас, — зазначыў віноўнік урачыстасці. — Тут адчуваецца пэўная аўра, у гэтых сценах збіралася шмат інтэлігенцыі, і вельмі прыемна, што традыцыі прадаўжаюцца. У музеі маецца ўнікальны асяродак, проста ідэальнае месца для невялічкай экспазіцыі. Таму і прапанаваў арганізаваць тут выстаўку сваіх медалёў. Да таго ж летась я ўдзельнічаў у пленэры па дрэве, які ладзіў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. Падчас экскурсіі па Стаўбцоўшчыне пабачылі многа мясцін, звязаных з Песняром. З таго часу Колас стаў для мяне бліжэй.

Дарэчы, на выстаўцы дэманструюцца аўтарскія работы ў адзінкавым экземпляры, а таксама тыя, што выходзяць тыражом па трыста адзінак. Тэматыка разнастайная: рэлігійныя медалі і медальёны, медалі і манетавідныя жэтоны на гістарычную тэматыку, а таксама прысвечаныя знакамітым асобам мінулага і сучаснасці.

Для сваіх работ мастак выкарыстоўвае бронзу, алюміній, латунь. Спецыяльна для выстаўкі ў музеі Якуба Коласа Валерыем Калясінскім быў зроблены і адчаканены жэтон з выявай народнага паэта, які мастак вырашыў падарыць музею. У экспазіцыі таксама дэманструюцца малюнкі медалёў, гіпсавыя мадэлі і штампы, замалёўкі з відамі Стаўбцоўшчыны і Валожыншчыны.

**Раіса МАРЧУК**

## Аўтаспын назаўжды

**Не стала вядомай маладой журналісткі Кацярыны Безмацерных.**



Кацюша Безмацерных разам з мужам Аляксеем Ілюшыным загінула ў аўтамабільнай аварыі ў Пакістане 29 верасня, акурат у дзень свайго нараджэння. Цяжка выказаць, якім шокам гэта стала для ўсіх. Больш жыццярадаснага і жыццелюбівага чалавека, чым Каця, знайсці складана. Здавалася, яна любіла ўсіх людзей без выключэння. У кожным майгла знайсці нешта добрае. З-за гэтай сваёй усёпаглынальнай дабрыні і спагадлівасці яна здавалася заўсёды такой безабароннай — бо людзі ж бываюць розныя… А цяпер Кацюшы няма. Ёй споўнілася ўсяго 26 гадоў. Яе мужу Аляксею было 24. Незадоўга да ад'езду з Беларусі яны пабраліся шлюбам.

Маладыя кіраваліся аўтаспынам у Індыю. Праехалі Арменію, Грузію, Іран… Грузавік, у якім яны ехалі праз горныя мясціны Пакістана, перакуліўся ў абрыў. Усе пасажыры змаглі ўратавацца, а Каця і Лёша не змаглі. Іх засыпала грузам…

Індыя была Кацінай марай. Аднойчы яна ўжо вандравала туды, яшчэ калі вучылася на журфаку БДУ. Да Індыі дабіралася самалётам, а па самой краіне падарожнічала ўжо аўтаспынам. Пасля яна прапанавала шмат цікавых рэпартажаў у газеты, цікава пісала пра вандроўку ў сваім блогу. Каця наогул шмат пісала і шмат вандравала. Аўтаспынам. І заўжды было за яе крыху страшна. З выгляду такое крохкае і маленькае дзяўчо… Колькі гісторый яна расказвала пра свае падарожжы, пра экстрым, драйв, радасць, якую яна адчувае. Здаецца, «радасць» наогул было Кацiным улюбёным словам.

Каця любіла ўвесь свет. Займалася ёгай. Выпрабоўвала на сабе нетрадыцыйныя метады лекавання. Ніколі не прымала пігулак, лячылася фізічнымі практыкаваннямі ды зёлкамі. Кацюша была апантаным чалавекам, неабыякавым. У яе былі свае каштоўнасці. І яна заўжды стварала ўражанне гарманічнага чалавека, сугучнага з усім светам, таму што яна любіла гэты свет. Вось толькі Індыя яе вабіла больш, чым звычайных людзей. Нейкай запаветнай была для яе гэта краіна. Да таго ж такі досвед — праехаць палову Азіі! Колькі ўвогуле іх, гэтых гісторый пра Кацюшын аўтаспын. Многія з іх яна распавяла ў сваіх артыкулах. Многія прыгадваюць ейныя сябры ды знаёмыя. Але ехаць вось так, у такую далечыню, яе адгаворвалі літаральна ўсе. Усе хваляваліся…

Кацюша пісала пра скваты і панкаў, пра хіпі ды альтэрнатыўную музыку, пра мастакоў і іх сем'і, пра ўсе субкультуры на свеце, пра сябе, пра аўтаспын, вандроўкі і далёкія загадкавыя краіны, друкавалася ў многіх беларускіх часопісах і газетах, пісала для сайтаў, вяла блог. Працавала ў часопісе «Бярозка», вяла пры ім школу журналістыкі…

А цяпер іншыя пішуць пра яе. І няхай яна гэта пабачыць і адчуе — як мы смуткуем, любім і памятаем. Верым, што іх з Лёшам шлях працягваецца. І ў гэты шлях яны выправіліся хаця б разам, хаця б шчаслівымі…

Супрацоўнікі Выдавецкага дома «Звязда» смуткуюць па Кацярыне і Аляксею ІЛЮШЫНЫХ і выказваюць свае шчырыя спачуванні іх родным і блізкім.

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» і супрацоўнікі часопіса «Бярозка» смуткуюць з прычыны гібелі свaёй аўтаркі, былой супрацоўніцы, арганізатара клуба «Творчая майстэрня «Бярозкі», журналісткі Кацярыны БЕЗМАЦЕРНЫХ. Спачуваем родным і блізкім.

# «Танцы» закулісся

Прэм'ера балета «Шэсць танцаў» на музыку Вольфганга Амадэя Моцарта адбылася 8, 9 і 11 кастрычніка ў Вялікім тэатры Беларусі. Канцэпцыя, харэаграфія, сцэнаграфія і касцюмы — Іржы Кіліан (Нідэрланды). Дырыжор-пастаноўшчык — заслужаны артыст Украіны Віктар Пласкіна. Мастак па святле — Юп Каборт (Нідэрланды). Асістэнты харэографа — Шырлі Эсэбум, Юст Бігелар і Хэнк Палмерс (Нідэрланды). Балетмайстры-рэпетытары — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Канстанцін Кузняцоў, лаўрэат міжнародных конкурсаў Вольга Касцель. У спектаклі занятыя салісты і артысты беларускага балета.



Фота Міхаіла Несцерава

Сцэна са спектакля.

Чэшскі харэограф Іржы Кіліан — сучасны класік, які падзяліў харэаграфію на «да Кіліана» і «пасля». Ён вучыўся ў Пражскай кансерваторыі, а затым у Каралеўскай балетнай школе Лондана, дзе вывучаў сучасныя тэхнікі танца. Як танцоўшчык працаваў у Штутгарцкім балеце, а ў 1976 годзе ўзначаліў Нідэрландскі тэатр танца (NDT),ператварыўшы яго ў адзін з найлепшых у свеце. Некалькі гадоў таму Кіліан сышоў з пасады дырэктара NDT і пачаў працаваць з тэатрамі розных краін, ставіць балеты па ўсім свеце.

Балет «Шэсць танцаў» лічыцца эталонным творам харэографа. Музычная аснова — бліскучыя «Нямецкія танцы», якія належаць да ліку жартаўлівых опусаў Моцарта. Моцартаўскі гумар — гумар асаблівай каштоўнасці, калі выключна аркестравымі сродкамі ствараецца востры шарж, пародыя, дзе іронія, смех (часам гратэскны) чаргуюцца з глыбокім роздумам пра чалавечыя пачуцці. Кіліан пераасэнсоўвае ўсе дэталі танцавальных мініяцюр Моцарта і ўвасабляе іх у танцы з дапамогай тонкіх пластычных метафар.

Гаворачы пра «Шэсць танцаў», Кіліан адзначыў: «Два стагоддзі аддзяляюць нас ад таго часу, калі Моцарт напісаў свае «Sechs Tänze». Гэта тая гістарычная эпоха, што вызначалася вялікай колькасцю войнаў, рэвалюцый і розных сацыяльных пераваротаў. Мне здалося немагчымым проста стварыць танцавальныя нумары, якія адлюстроўваюць толькі музычную пышнасць кампазітара. Замест гэтага я паставіў шэсць бессюжэтных танцаў, якія не маюць дачынення да рэчаіснасці, але іх гумар павінен нівеліраваць жыццёвыя цяжкасці і служыць правадніком да вечных каштоўнасцей».

Сам чэшскі харэограф (дарэчы, з беларускімі каранямі — яго маці са Смалявіч) не змог прыехаць, але папрасіў пакінуць запрашэнне адкрытым. Замест Іржы Кіліана харэаграфію балета паставіла яго асістэнт Шырлі Эсэбум. Яна працуе ў Нідэрландскім тэатры танца (NDT) на працягу 15 гадоў. Была танцоркай да сезона 2009 — 2010. Танцавала ў спектаклі «Шэсць танцаў» на гастролях па ўсім свеце. Цяпер — педагог-рэпетытар, асістэнт Іржы Кіліана падчас пастановак спектакляў у тэатрах іншых краін. Яна ўжо ажыццявіла пастаноўку балета «Шэсць танцаў» у ЗША, Чэхіі, Францыі, а пасля працы з беларускай трупай Шырлі Эсэбум будзе ставіць балет «Шэсць танцаў» у Карэі.

Па словах Шырлі, «Шэсць танцаў» — дастаткова смешнае, камічнае прадстаўленне, але толькі на першы погляд. У спектаклі закладзена нямала глыбокіх ідэй. Вядома ж, дзеянне адбываецца ў часы Моцарта, але калі пагладзець на сюжэт, можна сказаць, што там ідзе гаворка і пра сённяшняе жыццё. Пра тое, што адбываецца за кулісамі любога тэатра: раманы, здрады, плёткі, канкурэнцыя — усё гэта абыграна цікава і з гумарам.

Сусветная прэм'ера «Шасці танцаў» адбылася ў 1986 годзе ў Музычным тэатры Амстэрдама. На гэтым тыдні пабачыць грацыёзны, поўны тонкага гумару камічны балет змаглі і беларускія знаўцы танцаў. Безумоўна, на сёння гэта адна з жамчужын сучаснага харэаграфічнага мастацтва.

**Таццяна ШЫМУК**

# Па-новаму, па-цюменску

Галерэя «Універсітэт культуры» прадставіла выстаўку творчых работ выпускнікоў Інстытута выяўленчых мастацтваў і музейных тэхналогій Цюменскай дзяржаўнай акадэміі культуры, мастацтваў і сацыяльных тэхналогій.

Культурныя і навуковыя сувязі паміж Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і акадэміяй узмацняюцца з кожным годам. У экспазіцыі — лепшыя работы маладых творцаў, выпускнікоў Цюменскай акадэміі: творы жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а таксама праекты да твораў з керамікі і тэкстылю. Каб прывезці гэтыя работы ў Беларусь, спатрэбілася два тыдні. На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры, якім было асабліва цікава пагладзець на творчасць сваіх аднагодкаў.

Работы, прадстаўленыя на выстаўцы, вельмі цёплыя, эмацыянальныя. Гэта пейзажы, партрэты, нацюрморты, выкананыя пад кіраўніцтвам знакамітых педагогаў, у тым ліку прафесара Сяргея Струннікава, які ўзначальвае кафедру жывапісу. Кожная работа — сінтэз новага погляду і досведу, творчы дыялог паміж вучнем і педагогам.

Асаблівае ўражанне пакідаюць творы, якія прэзентуе зала дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: дзівосныя прыгажосці дываны, габелены. Спалучэнне традыцый і сучаснага творчага падыходу.

Прадстаўнікі Цюменскай акадэміі прыйшлі да высновы, што цяпер неабходна правядзенне такой выстаўкі і ў Цюмені. Там з нецярпеннем чакаюць работы беларускіх творцаў.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Любанскі фэст не развітваецца

Фестываль «Палескія сустрэчы», які ўпершыню прайшоў на Любаншчыне, аб'яднаў музыкантаў, акцёраў, навукоўцаў, рамеснікаў і знакамітых ураджэнцаў раёна.

Арганізатарамі форуму выступілі народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Міхаіл Фінберг, Мінаблвыканкам, Любанскі райвыканкам. Канцэрт беларускай класічнай музыкі, прысвечаны 190-годдзю са дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі, цёпла прымалі ў Сароцкім сельскім доме культуры. Адсюль музыканты перамясціліся на цэнтральную плошчу Любані, дзе аркестр Міхаіла Фінберга выступіў з праграмай «Лепшыя беларускія песні, новыя імёны джаза Беларусі-75».

З поспехам прайшоў канцэрт і ў Любанскай дзіцячай школе мастацтваў. Менавіта там 16 маладым людзям уручылі пасведчанні стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі па падтрымцы таленавітай моладзі. Тут ладзілася выстаўка «Душой заўсёды я разам з вамі» ураджэнца гэтых мясцін Сяргея Мікуліча, жывапісца, скульптара, графіка, члена саюза мастакоў Расіі.

Падчас фестывалю адбылася прэзентацыя кнігі доктара мастацтвазнаўства прафесара Вольгі Дадзіёмавай «У гонар Любані: пяць музычных крокаў па Міншчыне», якая распавядае пра фестывалі Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга ў Нясвіжы, Заслаўі, Маладзечне, Чысці і Любані. Яшчэ адным падарункам для жыхароў горада стала прэзентацыя песні, прысвечанай Любані.




Падчас канцэрта ў Любанскай дзіцячай школе мастацтваў.

«Прынята рашэнне, згодна з якім «Палескія сустрэчы» будуць праводзіцца штогод, бо яны не толькі дазваляюць атрымаць асалоду падчас выступлення артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра, але і адкрыць новыя беларускія музычныя імёны», — зазначыў старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура. А значыць, сёлетні любанскі фэст — толькі пачатак шэрагу культурных падзей, якія раскрыюць патэнцыял багатага на таленты рэгіёна.

**Алена МАЛЕВІЧ, фота аўтара**

# Сцяжынкамі Каруся Каганца

Сёлета споўнілася 145 год са дня нараджэння беларускага пісьменніка, драматурга, мастака і скульптара Каруся Каганца (Казіміра Кастравіцкага). У Дзяржынску стала ўжо традыцыяй ладзіць «Койданаўскія чытанні», прысвечаныя слыннаму земляку. Першыя прайшлі ў снежні мінулага года, а нядаўна супрацоўнікі Дзяржынскай раённай бібліятэкі і рэдакцыі райгазеты «Узвышша» правялі другія «Койданаўскія чытанні», якія прыцягнулі ўвагу жыхароў горада і раёна. Адбылася гэтая цікавая падзея пад эгідай Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое ўзначальвае Алесь Карлюкевіч. Чытальная зала была перапоўнена.

У святе бралі ўдзел бібліятэкары Дзяржыншчыны, настаўнікі і вучні, якія цікавяцца краязнаўствам, паэты мясцовага літаратурнага аб'яднання «Выток», госці з Мінска: дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіслаў Цыдзік, галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая, рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Маладосць» Ірына Чарняўская, празаік, драматург Уладзімір Ягоўдзік, пісьменнік, гісторык і краязнаўца Анатоль Валахановіч. Выступоўцы распавядалі пра багатую спадчыну Каганца, паэты «Вытоку» прачыталі вершы, прысвечаныя знакамітаму земляку. Прагучалі цікавыя звесткі і пра стрыечнага пляменніка Каруся Каганца — французскага паэта Гіёма Апалінэра, і пра падабенства іх лёсаў.

Пасля пасяджэння адбылася вандроўка па сцяжынках Каруся Каганца. У вёсцы Вялікія Навасёлкі ўдзельнікі літаратурнага свята пазнаёміліся з былой сядзібай Кастравіцкіх, наведалі магілу Каруся Каганца. Завіталі і ў краязнаўчы музей мясцовай сярэдняй школы, дзе яго кіраўнік Вячаслаў Кавалеўскі прадставіў экспазіцыю, прысвечаную Карусю Каганцу і Гіёму Апалінэру.

**Лявон ЦЕЛЕШ**

## Абрысы

Сёння а 16-й гадзіне ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбудзецца вечарына «Ёсць Чалавек. Ёсць свет і дабрыня…», прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння беларускай паэтэсы Эдзі Агняцвет. Арганізатарамі імпрэзы выступілі Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі і Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Падрыхтаваная таксама выстаўка «Гэта — і сэрца і розум, неба маё і зямля», на якой прадстаўлены зборнікі вершаў, публікацыі асобных твораў, перакладаў, самыя першыя выданні Э. Агняцвет.

Літаратурны музей Максіма Багдановіча ў Мінску запрашае ўзяць удзел у Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Кніга новага жыцця», прысвечанай 100-годдзю адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў М. Багдановіча «Вянок». Канферэнцыя адбудзецца 26 лістапада. Плануецца абмеркаванне наступных кірункаў: «Творчая спадчына Максіма Багдановіча ў культурным і гістарычным кантэксце: рэцэпцыя, традыцыі, уплывы», «Уплыў М. Багдановіча на развіццё беларускага слоўнага мастацтва», «Творчасць Максіма Багдановіча ў дыялогу культур, моў, літаратур» ды іншыя.

Музей гісторыі горада Гомеля прапануе сваім наведвальнікам выстаўку «Беларуская маляванка». У экспазіцыі прадстаўленыя маляваныя дываны — унікальныя народныя творы. Гэты малявядомы цяпер кірунак народнага мастацтва быў вельмі распаўсюджаны ў 1920 —1960 гг. На выстаўцы будзе прадстаўлена калекцыя беларускіх маляванак з фондаў Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе», выкананых Я. Драздовічам, А. Кіш, Г. Кузаўковым. Выстаўка працуе да 10 лістапада.

Фотавыстаўка «Адценні свету» разгорнутая ў кінатэатры «Цэнтральны». У экспазіцыі прадстаўленыя творы Вольгі Аркадзьевай і Валянціны Анцыпавай. На фотаілюстрацыях — жыццё і побыт людзей розных краін і кантынентаў. «У кожным куточку нашай Зямлі можна ўбачыць тое, што прымушае сэрца біцца часцей, а душу — усміхацца: дзесьці незвычайныя людзі, дзесьці — прыгожыя краявіды і цікавы свет жывёл, дзесьці найцікавейшая архітэктура», — лічаць аўтары выстаўкі і прапануюць увазе гледачоў сваё бачанне свету.

# Ружы ад Купалы

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ



Хто не чытаў паэму Якуба Коласа «Сымон-музыка»! Мабыць, памятаеце, як галоўны герой заначаваў у карчмара Шлёмы. Толькі не спіцца яму, «не йдзе сон». І раптам:

*Яркім светам,*
*Агняцветам*
*Свеціць штосьці, —*
*То — Яна!*

Яна — дзяўчына, з якой некалі Сымон сустрэўся і якая з таго часу ў яго «душы // Заўжды міла і жадана», гэта «яе імя — // Агняцвет!»

Дзякуючы захапленню паэмай «Сымон-музыка» паэтэса Эдзі Каган і ўзяла сабе псеўданім Агняцвет, якім у 1929 годзе падпісала сваю першую публікацыю. Гэты псеўданім адпавядаў яе настрою — жыць узнёсла, не забываючы, што новы свет змогуць пабудаваць толькі людзі, рамантычна акрыленыя, адданыя справе рэвалюцыі. А яны такімі і былі — дзеці рабочых, рамеснікаў, а таксама сялян, якія ад сахі і касы рваліся ў горад, імкнуліся паспяхова авалодаць ведамі. І назва першай кнігі карэннай мінчанкі Э. Агняцвет «Маё пакаленне» (1935) у гэтым сэнсе сімвалічная: не толькі пра сябе пісала паэтэса, а і пра тых, хто ішоў поруч.

Сёння мы ведаем, як часта тады словы разыходзіліся са справамі, а высокія ідэалы не былі падмацаваны канкрэтным і належным іх увасабленнем. Ведаем і пра беззаконне, але ж гісторыю не перайначыш. Гісторыю літаратуры таксама…

Бацька Эдзі Сямёнаўны працаваў прарабам на лесасплаве і лесанарыхтоўках, а маці была бібліятэкарам. З аўтабіяграфіі Э. Агняцвет даведваемся: «Яна першай раскрыла перада мною хараство казак Пушкіна, вершаў Лермантава, твораў Талстога. У Пушкінскай бібліятэцы мне давялося ўпершыню ўбачыць беларускіх пісьменнікаў: там мая маці — вялікая аматарка паэзіі — часта арганізоўвала вечары беларускай літаратуры». Бацька ж вучыў дачку любіць прыроду, з павагай і разуменнем ставіцца да расліннага і жывёльнага свету. Гэтыя два захапленні — літаратурай і прыродай — паспрыялі таму, што дзяўчынка сама пачала пісаць. Як гэта часта бывае ў падобных выпадках, першым суддзёй стаў настаўнік беларускай літаратуры. Ён параіў паказаць гэтыя пробы пяра самому Янку Купалу. Відаць, адчуў, што вучаніца мае задаткі таленту.

На ўсё жыццё запомніла Э. Агняцвет першую сустрэчу з народным песняром. Пазней былі і наступныя, ды тая — як далёкі сон, які ніколі не забываецца: «Да мяне выйшаў высокі светлы чалавек, паглядзеў добрымі, праўдзівымі вачыма і папросту запрасіў зайсці ў хату. Помню вялікі круглы стол, на якім ляжала мноства кніг і часопісаў. Янка Купала запытаўся, што чытаюць мае школьныя таварышы і я сама. Параіў вучыцца, чытаць творы Някрасава, Шаўчэнкі, Горкага, Багдановіча…» І, безумоўна, пазнаёміўся з вершамі госці. А затым было гэткае цёплае, як і сустрэча, развітанне: «…Янка Купала нарэзаў букет ружаў. Ніколі потым у жыцці я не бачыла такіх дзівосных ружаў. Калі вярталася дадому, мне здавалася, што кожны сустрэчны ведае: я нясу букет, падораны Янкам Купалам».

Паэзія паэзіяй, але заставалася яшчэ і проза жыцця. Э. Агняцвет скончыла сямігодку, уладкавалася на мінскі завод «Камунар» (цяперашні станкабудаўнічы). Марыла працаваць будаўніком, таму праз год паступіла ў будаўнічую прафтэхшколу. Але правучылася ў ёй толькі год. «Вінаваты» ў гэтым будучы вядомы дзіцячы пісьменнік Алесь Якімовіч, на той час — выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Алесь Іванавіч ахвотна падтрымліваў маладых аўтараў, цікавіўся іх творчасцю. У школе праводзіліся чытацкія канферэнцыі, літаратурныя дыспуты. Не без рэкамендацыі А. Якімовіча Э. Агняцвет усё часцей прапаноўвала свае новыя творы ў друк. Яны змяшчаліся ў газетах «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі», іншых выданнях. Алесь Іванавіч параіў атрымаць вышэйшую адукацыю. Якраз на літаратурным факультэце Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута адкрылася крытыка-творчае аддзяленне, куды і накіравалася Э. Агняцвет. У 1934 годзе скончыла вучобу і завочна паступіла на педагагічнае аддзяленне. Адначасова была рэдактарам на Рэспубліканскім радыё.

У перадваенныя гады — супрацоўнік аддзела паэзіі часопіса «Полымя рэвалюцыі». Выходзяць дзве «дарослыя» кнігі — «Вершы» (1938) і «Вясновай раніцай» (1941). Але сама паэтэса ўсё больш пераконвалася: яе прызванне — дзіцячая літаратура.

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Э. Агняцвет эвакуіравалася ва Узбекістан. Пісала творы, у якіх асуджала фашызм, апявала мужнасць савецкіх людзей. Новае гучанне набылі і вершы для дзяцей. У аўтабіяграфіі чытаем: «Найбольш хвалявала мяне тэма: нашы дзеці. На дарогах вайны бачыла я счарнелых, бяздомных дзяцей. Гэта не павінна паўтарыцца ніколі!»

*Да мяне выйшаў высокі светлы чалавек, паглядзеў добрымі, праўдзівымі вачыма і папросту запрасіў зайсці ў хату. Помню вялікі круглы стол, на якім ляжала мноства кніг і часопісаў. Янка Купала запытаўся, што чытаюць мае школьныя таварышы і я сама. Параіў вучыцца, чытаць творы Някрасава, Шаўчэнкі, Горкага, Багдановіча…*

Што магла зрабіць тады яна, жанчына? Змагацца з ворагам словам, паэзіяй! А яшчэ — пісаць творы, якія прынеслі б хоць крыху радасці дзецям. Так і нарадзіліся не толькі шматлікія вершы Э. Агняцвет, а і лібрэта оперы-казкі «Джанат». Яго паклаў на музыку кампазітар Л. Шварц. Лібрэта было напісана ў 1942 годзе, а прэм'ера адбылася ў 1944-м. Пазней з'явіліся новыя пастаноўкі — у 1947, 1974 гадах. Творчае супрацоўніцтва Э. Агняцвет з кампазітарамі — асобная тэма. Паэмай «Песня пра піянерскі сцяг» зацікавіўся вядомы маэстра Р. Пукст, а ў 1956 годзе ў тэатры оперы і балета ў Мінску з поспехам прайшла прэм'ера першай беларускай оперы для дзяцей. Многія вершы Э. Агняцвет сталі песнямі.

Жывучы ў Ташкенце, Э. Агняцвет часта сустракалася з Якубам Коласам — розніца ў гадах не перашкаджала іх сяброўству. На гэты час прыпадае і пачатак яе дружбы са знакамітай узбекскай паэтэсай Зульфіёй. Адсюль, з Узбекістана, бярэ вытокі тэма дружбы ўзбекскага і беларускага народаў у яе творчасці.

Талент Э. Агняцвет па-сапраўднаму раскрыўся ў пасляваенны час, калі адна за адной пачалі выходзіць кнігі. Пісала шмат, але перавагу аддавала літаратуры для дзяцей: «Васількі» (1947), «Ля піянерскага кастра» (1952), «Твае таварышы» (1957), «Госць з далёкай зямлі» (1958), «Незвычайныя канікулы» (1962), «Першы ліст» (1966) «Падарожнік» (1969), «Піянерская гама» (1970), «Мы сур'ёзныя, мы вясёлыя» (1976), «Доктар Смех» (1977), «Ад зярнятка да вясёлкі» (1981), «Хто пачынае дзень?» (1982), «Рэчка, рэчанька» (1991) ды іншыя.

Усе засведчылі, што Э. Агняцвет належыць да творцаў, якія ў дзіцячай паэзіі дабіліся найбольш значных поспехаў. Асабліва гэта датычыць асваення эпікі, што пацвярджаюць паэмы «Будзем сябраваць», «Незвычайныя канікулы», у якіх загучала і тэма Вялікай Айчыннай вайны. У «Незвычайных канікулах» гэтая тэма звязаная з сучаснасцю. Гарадская школьніца Галя ў час летніх канікул гасцюе ў свайго дзеда, былога партызана. Раней ён сам мог павадзіць дзяўчынку па месцах былых баёў. Цяпер хварэе, але хоча напіцца вады з Жураўлінай крыніцы.

*Жураўліная крыніца!*
*Трэба досвіткам адной*
*Праз гушчар стары прабіцца!*
*Збан гліняны за спіной.*

Прыносіць Галя ваду. Прытулілася шчакой да дзедавай шурпатай рукі, просіць, каб пачакаў, не паміраў: «Падрасту, знайду я лекі…» У фінале сцвярджаецца, што добры ўчынак можа дапамагчы пераадолець смерць:

*— Пачакай, жывi! — прасіла,*
*Пераконвала яна.*
*І стары набраўся сілы,*
*Павярнуўся да акна.*

*Зіхацела там калоссе,*
*Травы ў росах, белы гай.*
*Неба і зямля, здалося,*
*Паўтаралі:*
*— Пачакай!*

*Маладымі галасамі*
*Клікаў добры, мілы край.*
*Чуўся пошчак:*
*— Па-ча-кай!*
*І сінела даль без краю.*
*Ён шаптаў:*
*— Я… пачакаю.*

Гэтаму твору сугучная і паэма «Васіль Сяргеевіч». Герой яе — стары дзіцячы ўрач, які ў час вайны вывез дзяцей з лагера смерці, пераапрануўшыся ў форму нямецкага афіцэра. Захварэў Васіль Сяргеевіч, занядужаў. Здаецца, спадзявання на ўратаванне няма. Але з Запаляр'я прыязджае прыёмны сын і прывозіць з сабой белае медзведзяня — «самай першай чысціні». Як і Галін дзед, набіраецца Васіль Сяргеевіч сілы. Не так лекі дапамагаюць яму, як спагада:

*Мабыць, лепшы памочнік лекаў*
*І надзейны чарадзей —*
*Голас блізкага чалавека*
*І спагада родных людзей.*

Гэтай спагадай, дабрынёй напоўнены сэрцы і юных герояў паэтэсы. Як у вершы «Міхеіч». Сюжэт твора (дарэчы, сюжэтныя ў сваёй аснове многія вершы Э. Агняцвет, у чым таксама сказваецца праяўленне эпічнасці яе таленту) узяты з паўсядзённасці. Дзеці пасябравалі з дворнікам, адзінокім і старым чалавекам. І вось яны даведаліся, што Міхеіч захварэў, а дапамагчы яму няма каму. Адразу ж, не чакаючы падказкі з боку дарослых, «пабеглі… у аптэку, пабеглі ў магазін»:

*Прынеслі аспірыну:*
*Хутчэй, хутчэй прымай! —*
*Прыправілі малінай*
*Грузінскі смачны чай.*

Не забыліся і пра тое, што двор не падмецены. Тут за справу ўзяўся герой-апавядальнік: «Надзеў фартух я сіні, пайшоў з мятлой, з вядром». А праца па ахвоце, без прымусу заўсёды радасць прыносіць, таму маленькі дворнік не хавае свайго захаплення ад таго, што быў карысным людзям: «Мне вокнамі ўсімі наш усміхнуўся дом».

Цудоўнае веданне Э. Агняцвет псіхалогіі дзяцей — вынік і таго, што яна часта сустракалася са сваімі чытачамі. І не толькі ў час прэзэнтацый кніг, канферэнцый. Даўняе сяброўства было ў яе з вучнямі Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве. Яно прынесла жаданы плён, калі ў 1977 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга Э. Агняцвет «Доктар Смех». Малюнкі да твораў выканалі самі дзеці. Юныя мастакі з гэтай школы парупіліся і пра афармленне зборніка паэзіі Э. Агняцвет «Ад зярнятка да вясёлкі».

А што да смеху, дык і сапраўды Э. Агняцвет бачыла ў ім доктара ад шмат якіх заган. І ад гультайства, і ад зазнайства, самаўпэўненасці. Дзесьці гэты доктар расказвае пра падзеі з іроніяй, а дзе, адчуваючы, што дастаткова прафілактычных мер, — з усмешкай. Як не прыгадаць верш «Параска і падказка», у якім гэтая дзяўчынка трапляе ў недарэчнае становішча. А ўсё з-за таго, што ніколі не вучыць урокаў, а спадзяецца на дапамогу аднакласнікаў. Не стрымалася настаўніца, запыталася неяк у дзяўчынкі: «Скажы нам, без якога слова пражыць не можаш ані дня?» Маўчала Параска, пакуль хтосьці не прыйшоў на дапамогу:

*Знайшоўся жартаўнік такі,*
*Што гучна прашаптаў:*
*— Падказка.*
*— Падказка! — крыкнула Параска.*

Прываблiваюць у Э. Агняцвет творы ў форме дзеяння, гульні. Дзіця трапляе ў родную яму стыхію, хоча да ўсяго дайсці само, уласным шляхам. Таму і прызнаецца герой верша «Скорагаворкі»: «Я гуляў ля горкі і збіраў скорагаворкі». Збіранне гэтае аказалася плённым. Толькі два прыклады:

*Рагатун Рыгорка родам*
*З Рагачова горада.*
*Як захоча,*
*Зарагоча*
*Рагатлівым рогатам.*

Або:

*Піскляняты просяць проса,*
*Скачуць, босыя, па росах.*
*Фрося проса ім прыносіць,*
*Ажно косы Фросі ў просе.*

Цэласнасць твора забяспечваюць свайго роду ўстаўкі: «Ці не лепшая — першая?», «Следам бяжыць другая — не благая!», «Я да рэчкі падышоў — раптам трэцюю знайшоў», «Вось табе, Рагатун Рыгорка, чацвёртая скорагаворка»…

Эдзі Агняцвет не толькі пісала для дзяцей арыгінальныя творы, але і перакладала лепшае з іншых моў. У прыватнасці, дзякуючы ёй да беларускай дзятвы прыйшлі на роднай мове зборнікі паэзіі Я. Османіса «Сабака з рагаткай», Г. Сулейманавай «Сорак косак», М. Джаліля «Я гляджу на зоры». У гэтым шэрагу адметнае месца займае «Краіна Паэмія» (1962). Гэта свайго роду анталогія французскай паэзіі для дзяцей, складзеная ў Францыі ў 1928 годзе. Увогуле, з французскай мовы Э. Агняцвет перакладала шмат, у тым ліку і «дарослыя» кнігі: П.-Ж. Беранжэ «Выбраныя песні», А. Экзюперы «Маленькі прынц», Г. Апалінэра «Зямны акіян», П. Элюара «З табою».

Пра значныя дасягненні Э. Агняцвет у галіне дзіцячай літаратуры сведчыць узнагароджанне яе ў 1986 годзе Міжнародным ганаровым дыпломам імя Х.-К. Андэрсена. Высокага сусветнага прызнання была ўдастоена кніга «На двары алімпіяда», напісаная пяром сталага творцы, чый талент, паяднаны з мастакоўскім досведам, прыносіць вялікі плён. Дый уся творчасць Э. Агняцвет — нібы тая Жураўліная крыніца, пакаштаваўшы вады з якой, набіраешся моцы і сілы.

Самы час узгадаць ружы, падораныя некалі Э. Агняцвет Янкам Купалам. Быццам прадчуваў Іван Дамінікавіч, што талент пачаткоўкі, якая завітала да яго, з цягам часу расквітнее, як гэтыя прыгожыя кветкі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**фота прадастаўлена Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры**

Старонкі памяці

# «Шурпатымі далонямі падымае чарку хлебароб…»

Не хвалюйцеся, маралісты! Гэта не прапаганда алкаголю. Што прапагандаваць тое, чаго і так дастаткова ці нават звышдастаткова! П'юць у нас, як ні круці, многа. А радкі, што прывёў вышэй, — з даўняй публікацыі ў пухавіцкай раённай газеце (тады яна называлася «Сцяг працы»), з даўняга верша Міколы Мішчанчука, надрукаванага ў святочным нумары за 1 студзеня 1965 года. Лічы, амаль паўвека таму…

*Новы год! Шурпатымі далонямі*
*Падымае чарку хлебароб.*
*Новы год! Паэт з сівымі скронямі*
*ў роздуме маршчыніць чысты лоб, —*

пісаў аспірант Мінскага педагагічнага інстытута М. Мішчанчук. Верш так і называўся — «Навагодняе». А як жа было не выказаць добрых слоў землякам!.. Тут, на Пухавіччыне, Мікола закончыў школу. Тут авалодаў роднай беларускай мовай. 2 лютага «раёнка» ізноў дала слова паэту — быў надрукаваны верш аспіранта «Зімовы малюнак»: «Вецер звоніць на цымбалах // У зімовым лесе, // Сэрца кратае запалам // Срэбрагучных песень». 9 сакавіка 1965 года М. Мішчанчук выступае ў чарговым выпуску «Літаратурнай старонкі» з вершам «Рахунак».

Гартаючы летась, у 2012-м, падшыўку раённай газеты, седзячы ва ўтульнай чытальнай зале Пухавіцкай раённай бібліятэкі, наўмысна рабіў гэтыя выпіскі, каб перадаць аўтару, каб нагадаць яму пра многае, а галоўнае — каб запрасіць Мікалая Іванавіча на сустрэчу з чытачамі-землякамі. Апошні час мы шмат ліставаліся з прафесарам, доктарам філалагічных навук Мікалаем Іванавічам Мішчанчуком, які ўжо даўно асеў у Брэсце ды шмат сіл, стараннаў укладваў у выхаванне новага пакалення філолагаў у старадаўнім горадзе. Паважанаму земляку, колішняму выпускніку Суцінскай сярэдняй школы, я і сваю кнігу па літаратурнай гісторыі Пухавіччыны «І марам волю дам» даслаў аднаму з першых. Цікава было ведаць яго, паважанага і аўтарытэтнага даследчыка, меркаванні, мець ад яго падказкі. Мікалай Іванавіч прачытаў уважліва, выказаў шмат цёплых слоў. Ды іх успрымаю авансам. Бо і ў літаратурным краязнаўстве Пухавіччыны яшчэ хапае «белых плям». Ад Міколы Мішчанчука даведаўся і нязнанае дагэтуль: з Пухавіцкім краем, Мар'інай Горкай звязаны жыццёвы лёс Алеся Дудара. Дык гэта ж — легенда беларускай паэзіі!.. Акрыленая рэвалюцыяй, яго творчасць была для многіх першапраходцаў беларускай савецкай паэзіі арыенцірам, трывалым апірышчам у руху наперад…



Іван Навуменка, літаратуразнаўцы Антон Семяновіч, Мікола Мішчанчук на сустрэчы са студэнтамі філфака Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Сярэдзіна 1980-х гг.

Былі думкі і сустрэцца ў Брэсце, наведаць да Мікалая Іванавіча, які некалькі гадоў таму перанёс інфаркт. А як не сустрэцца, калі 17 сакавіка 2012-га (я гляджу на дату і сам шукаю нейкую містыку ў страшнай для мяне лічбе «17»: дзень страт, бядот: 17 снежня, 17 красавіка, яшчэ амаль трагедыя ў самы пярэдадзень — 16 кастрычніка, за тры-чатыры гадзіны да 17-га…), брэсцкі прафесар падпісаў мне адразу некалькі сваіх кніг. Прывяду гэтыя дарагія сэрцу аўтографы. На кнізе вершаў «Трывожуся за белы свет»: «дарагому Алесю Карлюкевічу — Светламу і Шчыраму Чалавеку. Кранулы Высокай Тваёй дабрынёй, што ўнесла ў сэрца маё супакой. Дабра і Шчасця Табе, шаноўны Алесю!..» На манаграфіі «Класіка — сучаснасць — перспектывы: пра літаратурны працэс ХХ стагоддзя»: «Дарагому Алесю Карлюкевічу на Добрую Памяць. Шаную! Паважаю! Веру і Вярую! Ёсць чалавечнасць на Зямлі!..» На зборніку вершаў, паэм і перакладаў «Струна надзеі»: «Шматшаноўнаму Алесю Карлюкевічу — аднадумцу, земляку-пухаўляніну, патрыёту роднага кутка, з якога пачынаецца Радзіма, слаўнаму і шчыраму чалавеку. Хай Бог беражэ Цябе ад усіх трывог, дарагі! Заўсёды Твой…» Можа, і нясціпла выпісваць гэтыя цёплыя, добрыя для мяне радкі… Але і не выпісваць не магу, хаця б ужо таму, што павінны наўздагон Мікалаю Іванавічу (а ён у 2012 годзе і памёр, пайшоў ад нас, жывых, у свет лепшы, далёкі і вечны) выказаць публічна, шырока і ўголас: «Дзякуй, Мікалай Іванавіч! За добрыя словы — дзякуй, за добрае, цёплае стаўленне — дзякуй! І за тое, што Вы былі шчодрым і шчырым земляком, якім і цяпер застаецеся ў маёй памяці!..»

…І адтуль, з Берасця, ён цягнуўся да роднай Міншчыны, да Пухавіччыны, да памежжа са Старадарожчынай… Да памежжа, якое на шляху з Мар'інай Горкі да Старых Дарог можна назваць шырокім літаратурным трактам. Бо гэтыя ж мясціны добра знаёмыя цэламу атраду пісьменнікаў неардынарных, уважлівых да роднага слова, чуйных да фальклору, да народнай песні. А гавару я пра Міхася Пянкрата, Кастуся Цвірку, Ларысу Кароткую… Адсюль, з памежжа, — і «сюжэты» некаторых вершаў Мікалая Іванавіча.

*І зазвінела песня ў лесе.*
*І, вырваўшыся на прастор,*
*На крылах радасці узнеслася*
*Да самых зор, да светлых зор.*

*І я стаяў зачараваны,*
*Крануцца з месца ўсё не мог,*
*Той песняю закалыханы,*
*Спавіты з галавы да ног.*

*Што мне былі сягоння травы,*
*Пракосаў нерухомы пляц —*
*Маім жыццём, маёй дзяржаваю*
*Зрабіўся песенны палац.*

…А мяне ўсё цягне ў той 1965 год, пра які я так і не распытаў у Мікалая Іванавіча. Уяўляю, бачу яго маладым, юным аспірантам. Ведаю, што тады ён быў жанаты. Ведаю, як спяшаўся ў суцінскія ваколіцы, да маці, да цешчы, — на сенакос, на бульбу… І слухаў не толькі спевы — з адкрытымі памкненнямі ўбіраў у сябе вясковае жыццё, звычайны побыт. Мо таму і шмат радкоў тады нараджалася ў будучага прафесара пра сялянскую працу. 17 чэрвеня 1965 года газета «Сцяг працы» надрукавала верш аспіранта «Хлебаробу». Мяркую, што тыя публікацыі мелі для Міколы Мішчанчука асаблівае значэнне. Ён толькі пачынаў друкавацца — з рэцэнзіямі, артыкуламі, толькі пачынаў навуковую работу. А дома, на Пухавіччыне, меў магчымасць адпачыць, паспрабаваць свае сілы ў паэтычных вышуках. Публікацыі бачылі школьныя настаўнікі, блізкія родзічы, суседзі… Сапраўды, тым самым замацоўвалася сувязь з родным куточкам, тая зямная, радаводная сувязь, якую часам мы — ці то выпадкова, ці то наўмысна — спяшаемся абарваць, перарэзаць, бы пупавіну…

У той 1965 год пухавіцкая «раёнка» адкрыла чытачам вершы паэтаў-землякоў Захара Біралы, Галіны Лук'янчык, Леаніда Дубоўскага, Івана Падбярэжскага, Петруся Капчыка, Жанны Ляпёшкі, Ігара Жулегі… Па-рознаму склаліся іх творчыя лёсы. Пятрусь Капчык (родам з Раўнаполля) жыве сёння ва Украіне. Захар Бірала, першы зборнік сатырычных вершаў якога быў выдадзены яшчэ ў 1929 годзе, у 1960 — 1980-я друкаваўся асабліва актыўна. Пабачыла свет некалькі яго кніг. Хаця і ў сталым узросце, але паэта-франтавіка, былога вязня сталінскага ГУЛАГа прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. А следам у літаратуру ішло новае пакаленне… 2 лютага 1965 года пухавіцкая раённая газета пісала: «Адбылося чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання, створанага пры нашай газеце. Свае новыя вершы прачыталі настаўнік Захар Бірала, Уладзімір Кулеш, Іван Падбярэжскі, вучні Наташа Гладкова, Барыс Мардуховіч, студэнт Міхаіл Падафалаў, рабочы Леанід Дубоўскі і іншыя». Тады пачынаў свой шлях у літаратуру і будучы літаратуразнавец Мікола Мішчанчук, чалавек, чый зямны лёс завершыўся ў Брэсце, а вось як творчая асоба ён пачаў фарміравацца на Пухавіччыне.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**фота з архіва Міколы Мішчанчука**

# Філасофія прыгод




*Сяргей Трахімёнак. Чаша Петры, альбо Руская цывілізацыя: генезіс і праблемы выжывання. — Мінск: Літаратура і Мастацтва.*

Кампазіцыя кнігі вельмі хораша адпавядае яе сюжэту, на пачатку кожнай новай часткі рамана вы сустрэнеце адмысловы эпіграф. Паводле задумы аўтара гэта часткі аўтарэферата дысертацыі аднаго з герояў — Архонтава, загадкавага чалавека, які выклаў уласнае светабачанне і інтэрпрэтацыю законаў Сусвету. Праўда, паводле класічных канонаў «эпіграф» мусіў бы быць меншым. Але ж... Глыбіня думкі настолькі вас уразіць, што вы ўжо будзеце гатовы чытаць толькі гэтыя часткі. Тым больш што графічна «эпіграфы» выдзяляюцца, і аматары хутка прагартаюць старонкі, калі захочуць скласці агульнае уражанне пра гэтую манаграфію. Яе тэма невычарпальная: ну хто з нас не разважаў пра ўзнікненне жыцця на Зямлі, пра іншапланетныя цывілізацыі і іх уплыў на развіццё грамадства ў розныя часы і фармацыі? Але роздум гэты ў кнізе не павярхоўны, ён грунтуецца на моцнай філасофскай глебе, якую, у сваю чаргу, таксама прапануецца перагледзець. Роўна як і прынцыпы перыядызацыі сацыяльных фармацый і адпаведных ім светапоглядных сістэм. Між тым, эпіграфы — толькі зачын, празрысты намёк на тое, што ёсць асноўным сюжэтам. Ён таксама няпросты, бо галоўны герой Пётр Лазуцін — чалавек, надзелены нешараговымі здольнасцямі. Ён выйграе конкурс на замяшчэнне пасады аналітыка ў нямецкай фірме, што займаецца распрацоўкамі ў сферы кланіравання чалавека. Аналітык, які мае вялікі досвед псіхолага, становіцца не толькі даследчыкам-эксперыментатарам, але і выклікае да сябе павышаную ўвагу зладзеяў ад навукі. Яго здольнасці прыходзяцца да месца ў офісах адпаведных дзялкоў, зацікаўленых ва ўсталяванні сваёй улады і атрымання фінансавых і амбіцыйных выгод. І тут прымешваецца пэўная жменя прыгод, здарэнняў, якія ўплываюць на лёс галоўнага героя. Каб выжыць, ён павінен праяўляць свае надзвычайныя (нават магічныя) здольнасці, за ім цікуюць — сюжэт становіцца напружаным! Такім чынам, твор можна аднесці да жанру дэтэктыва, прыгодніцкай прозы, роўна як і да фэнтэзі (кланіраванне чалавека, прадказанні ў снах, перамяшчэнні ў прасторы і г. д.) Але пры такім падыходзе застануцца незакранутымі яскраз псіхалагічная і філасофская плыні, без якіх кніга ўвогуле не адбылася б. Таму правамерным будзе аднесці раман да прозы інтэлектуальнай, якая не чытаецца па дыяганалі, патрабуе пэўнай папярэдняй падрыхтоўкі, ведаў і часу на асэнсаванне прачытанага. Героі розныя, іх сцверджанні часам досыць рэальныя і прадметныя, часам схаластычныя — ды яны з таго складанага, шматузроўневага свету, які стварыў аўтар. Чытачы могуць суаднесціць усё з нашымі стандартамі і гаварыць, быццам напісанае спрэчна. Аднак, размова і вядзецца якраз пра небяспеку неразумення жыццёвых працэсаў, якія могуць прывесці да краху чалавечай цывілізацыі. Раман пачынаецца са згадак пра сістэмны крызіс, у якім апынулася цывілізацыя руская і ў першую чаргу — яе дзяржаўнае ўтварэнне. Што можа стаць вектарам выжывання на пэўнай прасторы? Роздумыператвараюцца ў разгорнутыя маналогі герояў, і бывае, стрчаецца мяжа паміж героямі і аўтарам. Яны супольна шукаюць ісціну, супярэчаць адзін аднаму, але ні ў якім разе не здраджваюць сабе і ўласнаму прызначэнню — быць лепшымі.

Гэта яшчэ адна асаблівасць сюжэта: яго герой-самотнік, які адчувае сваю выключнасць, змагаецца, набывае і страчвае сяброў, перамагае, церпіць няўдачы. Але ён няспынны ў жаданні перайначыць свет да лепшага, даведацца пра ісціну, якая да часу схавана для чалавека, але вядомая Стваральніку.

«Ён быў фанабэрысты толькі ў адным: ён думаў, што можа давацць парады лепш, чым хто іншы». Цытата, прыведзеная з Марка Твэна, вельмі прыдатная для характарыстыкі галоўнага героя, хоць у цэлым творчы почырк аўтара ніяк не суаднясеш з дадзенай кнігай. Гумару тут няма, акрамя анекдотаў, якія ўжываюцца хутчэй як прытчы. Для таго, каб выказаць думку, якую чытач павінен знайсці сам. І адпаведна адрэагаваць. А вось аўтар ужо завочна па вашай рэакцыі зразумее, чаго чытач варты і ці час яму распавядаць далей. Альбо, можа, пачакаць лепшых часоў? Якія, пэўна, прыходзяць, і ў С. Трахімёнка паступова з'яўляюцца новыя кнігі. Зрэшты, гэта таксама нядрэнна, калі чалавеку ёсць што сказаць...

**Ірына ТУЛУПАВА**

# Дзе бацькоўскія хаціны — там Радзіма

**Віктар ШНІП**



***

Там, дзе бацькоўскія хаціны,
там Радзіма,
І я другой Радзімы не хачу зусім.
І ўжо са мной цяпер
заўжды перад вачыма
Маленькі чорна-белы здымак, на якім
На лаўцы восенню ля хаты ўсёй сям'ёю,
На сотках бульбу выбраўшы, сядзім,
І павуцінка з павучком па-над зямлёю,
Праз нашае жыццё нябачная нікім,
Ляціць, як плача, ведаючы ўсё ад Бога,
Што ёсць, што будзе,
што было і мне ў жыцці
Больш не паўторыцца, і зарасце дарога
Да адзінокай хаты, згубіцца ў лісці
З бяроз і клёна,
што даўно растуць ля плота,
Што гаспадаркі ўжо не зберагае тут,
А толькі сцеражэ ў двары траву
й самоту,
Ад ветру рыпучы, нібыта ад пакут.
Сяджу на лаўцы,
нібы на падсуднай лаве,
І на сябе за ўсіх і ўсё бяру віну.
І хату нашу каб прадаць, я маю права,
Ды не прадам, бо ведаю яе цану…

***

Мамін партрэт у мяне на сцяне.
Мама з партрэта глядзіць на мяне.
Мама нічога не кажа, ды я
Знаю, што думае мама мая.
Думае мама, таму і маўчыць,
Ведае мама, што позна вучыць
Сына сівога, што вершы складае,
Дома сядзіць, ад журбы прападае.
Толькі я не прападу, не засну.
Бацькаў партрэт пачаплю на сцяну,
Хай цяпер разам бацькі памаўчаць,
Хай на мяне — на свой твор —
паглядзяць…

***

Праліваецца з неба вада,
Як з вядра, што нясе мая мама
Па аблоках, з якіх ёй відаць
Цэлы свет і ўся вёска таксама,
У якой наша хата стаіць
Ля дарогі — на беразе Леты —
І мяне ў ёй чакаць і любіць
Больш нікога няма. Тут край свету,
Пра які толькі ведаю я,
Пра які толькі ведае мама.
Дождж, нібыта самота мая,
Дзе маланка, нібы тэлеграма,
Што я стаў назаўжды сіратой,
І ніколі, ніколі, ніколі
Маё гора не стане вадой,
Што ў пяскі адыходзіць паволі,
Як цяпер гэта з неба вада,
Што з вядра праліваецца ў мамы.
Заўтра свята, і мама, відаць,
Мые ў вокнах і шыбы, і рамы,
Праз якія глядзець на ўвесь свет
Будзе з бацькам яна і сябрамі,
А я буду маліцца ў царкве
Прад іконамі, як прад бацькамі…

***

Не хочаш ты, каб зноў прыйшла зіма
І сцежку зноў засыпала дадому,
Дзе ўжо нікога дзве зімы няма
І хата не патрэбна ўжо нікому,
І вопратка бацькоўская, і ўсё,
Што засталося ад жыцця былога,
І не таму, што ўсё, нібы смяццё,
А проста так, бо ўжо няма нікога
У цэлай вёсцы, дзе цяпер лісты
І яблыкі, як зоры, залатыя.
Усё у горад не зацягнеш ты,
Бо час не той і мы з табой не тыя.
І я таксама не хачу зімы,
Якая і ў мяне бацькоў забрала,
Каб снег я сніў і белыя дамы,
І маму з бацькам, і душа крычала,
Што не хачу, каб зноў прыйшла зіма
І сцежку зноў засыпала дадому,
Дзе ўжо нікога дзве зімы няма
І хата не патрэбна ўжо нікому…

***

Ранкам на працу ідзеш (не ў царкву),
Там забіваеш лухтой галаву,
Быццам бы кошык смяццём і травой.

З працы дахаты ідзеш ля царквы,
Шапку не зняўшы з цяжкой галавы,
Бо ўжо не бачыш крыжоў над царквой.

Прыйдзеш дахаты і ўспомніш царкву,
Скажаш сабе: «Не па-людску жыву,
Заўтра ў царкву перад працай зайду…»

Ранкам праз дождж па асфальце
брыдзеш,
Быццам па рэчцы чарнюткай плывеш
Лістам счарнелым, што ўпаў у ваду,
Міма царквы, ля якой я стаю,
Дома забыўшыся шапку сваю…

***

Уначы сёння восень настала.
І з жаўцюткай зямлі, як з вакзала,
Да нябёс павуцінай душа
Паляцела ад лета, якое
Для мяне не было залатое,
А самотнае, нібы шаша,
Што вядзе ў невядомыя далі…
Зоры ў небе лістотаю сталі,
Я пад імі, нібы пад бярозай,
Адзінокі, стаю і гляджу,
Як на травах туманяцца слёзы
Ці крупінкі начнога дажджу,
Без якога зямля сумавала…

Уначы сёння восень настала…

**Марына КАВАЛЕВІЧ**



## Ключы да сэрца

**А.**

Шукалі ў восені туманнай
Ключы да шчасця;
Шукалі ў зімы халоднай
Ключы да пяшчоты;
Шукалі ў вясны квяцістай
Ключы да ўзаемаразумення;
Шукалі ў лета гарачага
Ключы да кахання.

Шукалі,
Бо добра ведалі, што для таго,
Каб знайсці ключы да сэрца,
Скаванага чатырма ланцугамі,
Трэба было спярша прайсці
Праз усе вандраванні нашай
Маладосці.

## Мая любоў

**А.**

Уварвуся, як гром,
у памяць тваю,
У памяць тваю,
Бо люблю.

Уварвуся, як вецер,
у думку начную,
У думку начную
І з ёй заначую.

Уварвуся, як рэха,
ў тваю нечаканасць,
Ў тваю нечаканасць —
Знайду там адданасць.

Уварвуся, як лівень,
у сэрца раптоўна,
У сэрца раптоўна,
Бясслёзна.

Уварвуся дзяўчынай
у любасць тваю,
У любасць тваю,
Бо — люблю!

***

**А.**

Я малюю цябе сваім вершам;
Я малюю і думкай,
і словам;
Я ўсхваляю санетам, верлібрам
Твайго твару кожную рыску
Нечаканай,
раптоўнаю рыфмай.

Я малюю цябе,
бо Ўсявышні
Наталіў мае мары
натхненнем.
Я малюю ўвесь час па прывычцы
Твайго твару кожную рыску
Сваім новым,
без слёз, летуценнем.

## Маладыя імкненні

Адчуць бы волю у жаданнях,
У таямніча-звыклых снах.
Пачуць бы слова на світанні
На двух далёкіх берагах.

З палёгкай хуценька б узрушыць
Прастор сваёю мітуснёй,
І травы сонца прыцярушыць
Даўно асыпанай расой.

Спазнаць бы стрэчы ды спатканні,
Каб у прадонне воч глядзець,
Каб прызнавацца у каханні
І птушкай вольнаю ляцець.

Адчуць бы радасць у жаданнях,
У таямніча-звыклых снах.
Пачуць бы слова на світанні
На двух далёкіх берагах!



Фота Кастуся Дробава

**Зміцер ЗАХАРЭВІЧ**



* * *

Бездарожжам па свеце дзень кожны
Восень пошту разносіць сваю.
І, як на апусцелую пожню,
Ліст, нібы развітальны — апошні,
Лёг знячэўку на даланю.

У лісце тым ні слёз, ні праклёнаў,
Толькі сум абляцелай вярбы.
Адпаведна прыроды закону,
Лістапад апускае заслону
Па завершанай кветнай пары.

Адпусціўшы на бестэрміновы
Адпачынак у згадках маіх,
І з разрэджанае прасторы
Пасміхаецца захад барвова,
Пакідаючы небасхіл.

Але ўсмешкай не цешыць знікомай —
Ранак іншага не прынясе.
Заўтра, каб не настала ніколі,
З кожнай кропляй атрутнай патолі
Перакрэсліваю пакрысе.

* * *

Ад прысадаў, што смугою запарушаны,
У раскутую вятрамі вышыню
Растрывожанай начною птушкаю
Я імкліва, ледзь заўважна шугану.

Пакідаючы правіны незамоленымі
І мітрэнжных зданяў насланнё,
Воляй прагна дыхаю напоўніцу —
Між сузор'яў стану на крыло.

Адсюль долу спадзяванне прагнае
У прадонне узляцець з узмахамі
Крыл, асвенчаных маладзіком.
Не завабіць здрадлівым сілом.

І спагадлівасць дазволаў непатрэбная,
Каб нябёсы навылёт прашыць
Над заснежанымі пушчаў нетрамі
Ды санліваю зіхоткасцю сталіц.

Будзе час, надвор'е пераменіцца —
Кветны травень прыйдзе назаўжды.
Верагодна, мы яшчэ сустрэнемся,
Толькі ці пазнаю вас тады?

Бо на золку студзеньскім, запозненым,
Пераропжаны, я знікну ў цішыні,
Развітаўшыся засветным позіркам
З тымі, хто застаўся на зямлі.



## Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# Пярсцёнак каралевы Боны

### *Гістарычнае апавяданне*

I

Сэрца караля Польшчы і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста разрывалася ад болю і адчаю — яго каханая, яго любая жонка памірала, і ніхто ўжо не змог бы выратаваць яе ад смерці. «Барбара, не пакідай мяне! Любая, я ўсё зраблю для цябе! Я адракуся ад трона, мы будзем жыць удваіх у якім-небудзь замку, і ніхто, ні мая маці, ні твае браты, ні польская шляхта, не будзе перашкаджаць нам! Каханая, я не змагу без цябе жыць, я не змагу без цябе дыхаць, я не змагу без цябе быць чалавекам, Барбара!..» — слёзы душылі караля, і ён ужо не мог гаварыць, толькі стагнаў: «Барбара!»

Усяго дзве гадзіны таму Барбара паспавядалася і прыняла камунію. Нейкі час яна яшчэ чула словы мужа, аднак з кожным штуршком яе сэрца яны аддаляліся, станавіліся ўсё глушэйшымі, а хутка і зусім заціхлі.

Каралева польская і другая жонка Жыгімонта Аўгуста памерла 8 мая 1551 года, ціха адышла ў іншы свет. Праз некалькі тыдняў, калі боль і адчай крыху прытупіліся, кароль паклікаў да сябе маршалка земнага Радзівіла Чорнага.

— Паслухай, князь Мікалай, — не падымаючы вачэй на свайго швагра, загаварыў Жыгімонт. У яго голасе гучала нерашучасць, і словы ён падбіраў з цяжкасцю, асцярожна, быццам баючыся імі нанесці некаму, вядомаму толькі яму, смяротную крыўду ці абразу. — Ці не падаецца табе смерць маёй жонкі і тваёй сястры… зацчасная, нечаканая? Як ты думаеш, ці не атруцілі яе… нашы ворагі?

«Ды пра гэта шэпчацца ўвесь двор. Кажуць, што Барбару атруціў Людвіг Монці, сакратар тваёй маці, каралевы Боны», — ледзь не сарваўся адказ з языка Радзівіла. Аднак ён унутраным чуццём вопытнага вяльможы бачыў, што кароль ведае пра гэтыя плёткі, а ад яго хоча пачуць іншы адказ.

— Мы ўсе пад Богам ходзім, твая міласць, — асцярожна пачаў вяльможа, — а накont плётак пра атруту я разбяруся.

II

Наступным днём найменш радавітых прыдворных стражнікі пацягнулі ў сутарэнні каралеўскага палаца. Там разам з катам іх чакаў Радзівіл Чорны.

— Ты ад каго чуў, што каралеву Барбару атруцілі? — кожнаму з прыведзеных Радзівіл задаваў адно пытанне.

Большасць затрыманых падалі ў ногі маршалку, кляліся Богам, сваімі роднымі, што ніколі пра атручэнне каралевы не чулі. Некаторыя называлі імёны, і тады ў падвальны закут прыводзілі новых прыдворных, якія, у сваю чаргу, стараліся па-сабачы лісліввым позіркам расчуліць сэрца Радзівіла, запэўніць яго ў сваёй адданасці каралю.

К вечару плёткі пра атручэнне каралевы ў палацы заціхлі.

А яшчэ праз тыдзень да Радзівіла Чорнага завітала кобрынская старасціха пані Фальчэўская.

— Я прывезла таго, каго пан шукае, — пазмоўніцку паведаміла яна некалькі здзіўленаму вяльможу. — Пан будзе задаволены.

— Ну і каго ты прывезла, пані Арына?

— Зараз сам убачыш, — з гэтымі словамі старасціха адчыніла ўваходныя дзверы і скамандавала: — Заводзьце.

Праз некалькі імгненняў двое слуг Фальчэўскай завялі ў пакой немаладую, але вабную яшчэ нерастрачанай прыроднай прыгажосцю жанчыну. Незнаёмцы было каля сарака гадоў. Сухая, жылістая, з правільнымі рысамі твару, яна больш нагадвала высакародную даму, чым яе гаспадарыня, у яе вачах пан Мікалай убачыў унутраны спакой і пагарду да сваіх крыўдзіцеляў.

— Гэта хто? — Радзівіл яшчэ раз уважліва агледзеў незнаёмку ў беднай сялянскай вопратцы.

— Гэта палеская чараўніца Агазіна. Яна можа зрабіць любую атруту.

— Ну і што?

— Яе зеллем маглі атруціць пані Барбару.

За апошнія дні Радзівіл наслухаўся рознай лухты, нагледзеўся на рознае чалавечае глупства, аднак да такога — везці за сотню вёрст звычайную вядзьмарку, каб абвінаваціць яе ў злачынстве супраць каралеўскай сям'і! — да такога яшчэ ніхто не дадумаўся. Ён ведаў, што Фальчэўская — знаёмая старой каралевы Боны, і пагарджаць яе паслугамі ён не меў права. Таму лёгкім узмахам рукі Радзівіл выправіў з пакоя слуг і вядзьмарку, а сам запытаўся:

— Адкуль ты, яснавяльможная пані, ведаеш, што гэта твая чараўніца атруціла маю сястру? — пан Мікалай строга паглядзеў у вочы госці і дадаў: — Тым больш, што нашы лекары засведчылі, што Барбара памерла ад слабога сэрца і густой крыві!

— Вось, — на далоні старасціхі з'явіўся залаты пярсцёнак з вялікім рубінам пасярэдзіне і меншымі дыяментамі ў аздабленні. — Яго мы знайшлі ў вядзьмаркі, а такі пярсцёнак я некалі бачыла ў каралевы Боны.

— Ты хочаш сказаць, што каралевамаці… — Радзівіл сурова пасунуўся да Фальчэўскай. Яго вочы палыхалі шаленствам.

— Гасподзь з табой, пан Мікалай, — спалохана замахала рукамі старасціха, — я такога нават у думках не мела… Але адкуль у яе пярсцёнак каралевы? Можа, яна яго ўкрала, а потым праз яго напусціла на пані Барбару нейкія чары? Такое можа быць?

— Вось ты пра гэта ў яе і запытайся, — ужо спакайней адказаў Радзівіл. — Вязі яе ў свой Кобрын ці Берасце і там правodзь дазнанне. Толькі не трэба тут баламуціць людзей, пані Арына. Не трэба зноў трывожыць нашага беднага караля, ён цяпер і так вельмі слабы і хворы.

III

Пані Фальчэўская не стала спрачацца з Радзівілам Чорным. Яна нават была яму ўдзячная за тое, што ён не абвінаваціў яе ў распаўсюджванні плётак. Яна хуценька сабрала сваіх слуг, пасадзіла ў клетку Агазіну, клетку пагрузілі на калёсы, і ў той жа дзень адправілася ў зваротны шлях, які закончыўся ў Берасці. Там яна паклікала да сябе свайго вернага слугу, беззямельнага шляхціца Паўла Хандобу.

— Бачыш гэты пярсцёнак? — вялікі рубін заіскрыўся на яе далоні. — Ён будзе тваім, калі ты выб'еш з Агазіны прызнанне ў тым, што яна навяла сурокі на каралеву Барбару. Зразумеў?

Шляхціц у знак падзякі схіліў галаву.

Два дні Хандоба разам са сваімі памагатымі Кузьмой Дарондам і Язэпам Кучмой дапытвалі бедную жанчыну, два бясконцыя дні нечалавечых катаванняў вытрымала яе ўшчэнт спакутаванае цела, але яна перамагла, нават стогнам не парадавала сваіх катаў.

І ўсё ж на трэці дзень старасціха вынесла прысуд: «Вядзьмарку Агазіну, якая сурочыла каралеву Барбару і якая хацела звесці каралеўскі род, прылюдна спаліць на цэнтральным пляцы горада». У той жа дзень да вялікага слупа сюды прывезлі некалькі вазоў сухога галля, а вечарам салдаты гарнізона пачалі зганяць на пляц месцічаў.

Натоўп хваляваўся, напружанае чаканне паступова пераходзіла ў незадавальненне, незадавальненне — у гнеўны рокат, і ў той момант, калі найбольш нецярплівыя месцічы пачалі ўголас выказваць сваё раздражненне, аднекуль з цемры да слупа падвялі асуджаную.

Цела жанчыны было ледзь прыкрыта лахманамі. Яна з цяжкасцю перастаўляла ногі, і было бачна, што кожны крок ёй даецца з вялікімі намаганнямі. Агазіна падышла да слупа, без супраціўлення паднялася на невысокі зэдлік, дала прывязаць сябе вяроўкамі. Яна абыякавым позіркам чалавека, які выракся ўсяго зямнога, агледзела прыціхлы натоўп, сумна ўсміхнулася нейкім сваім думкам. Яна была яшчэ жывая, але на спалоханых людзей глядзела ўжо з падобнай вышыні. Што яна хацела ўбачыць у іх вачах? Спагаду, літасць, разуменне? Яны былі ёй без патрэбы. Яна ведала многіх з гэтых людзей, лячыла, ратавала ад хвароб іх дзяцей, а зараз бачыла ў іх вачах толькі цікаўнасць і непрыхаваны жах. Ніводная жылка на яе худым твары не здрыганулася, калі ёй пад ногі пачалі складваць вязанкі сухога галля. Яна нікога не бачыла, акрамя невысокага, чарнявага, гэткага, як і сама, падцягнутага і жылістага юнака. Той стаяў па-за натоўпам і таксама глядзеў зводдаль ёй у вочы. Так яны размаўлялі, так яны развіталіся, так яны маліліся.

Знізу нязграбны, тоўсценькі манах працягваў Агазіне распяцце, нешта крычаў, размахваў рукамі, а яна глядзела ў адну кропку па-за натоўпам, бы бачыла там Усявышняга.

— Зараз ты паўстанеш перад панам нашым Езусам, — надрыўна крычаў манах, з жахам пазіраючы на гаршэчак з вуголлем. — Прызнавайся, пакуль не позна, у сваіх грахах, пакайся…

Агазіна з непаразуменнем зірнула на манаха, і той заціх, спалохана прыкрыўся распяццем, апантана зашаптаў малітвы і адышоўся ўбок.

На плошчу апусцілася цяжкая, напружаная цішыня, доўга трываць якую было не ў чалавечых сілах, і тады пані Фальчэўская махнула рукой: «Пачынайце!»

Даронда паглядзеў на свайго сябра Хандобу, гадзенька ўхмыльнуўся, дастаў з гаршэчка пук распаленай кудзелі і падпіхнуў яго пад сухое голле. Хутка адтуль, спачатку нерашуча і квола, а потым смялей, павалілі густыя клубы дыму. Галлё затрашчала, і ў той жа момант з дзясяткаў грудзей вырваўся ўздых — уздых аблягчэння і жаху, уздых агіды і страху.

Полымя пачало лізаць ногі вядзьмаркі. Яе лахманы адначасна ўспыхнулі, вогненнымі змеямі абвалiліся ў касцёр і ўсе ўбачылі, наколькі люта і старанна выконвалі сваю работу каты. Агонь падняўся да грудзей жанчыны, да яе галавы, і ўсе з палёгкай падумалі, што яна памерла, задыхнулася дымам, як раптам адтуль, з дыму, праз полымя прагучаў незямны голас:

— Фальчэўская, Хандоба, Даронда, Кучма! Хутка я прызаву вас на суд божы. Праклён вам і вашым сем'ям!

Натоўп, напалоханы праклёнам, адхіснуўся ад вогнішча, а калі вяроўкі пераГарэлі і абвугленае цела Агазіны ўпала ў жар, кінуўся разбягацца — і адразу летняя ноч усім сваім цяжарам навалілася на перапалоханых людзей, нібы прыдушыла іх, прымусіла зачыніцца ў сваіх хацінах.

Толькі адзін невядомы юнак яшчэ доўга глядзеў на аслабелае полымя, і гэткае ж полымя адбівалася ў пашыраных зрэнках яго чорных вачэй.

IV

Пасля смерці Агазіны многія месцічы задумаліся: а за што яе спаліла старасціха, у чым прычына такой нянавісці і хто зараз будзе лячыць іх і іх дзяцей? Тады і ўспомнілі, што бацька вядзьмаркі быў збяднелым шляхціцам, што яе маці ў лесе задзёрла рысь, што яна са сваім сынам жыла ціха і сціпла і беды людзям ніколі не прыносіла. Старэйшыя расказвалі, што ў маладосці яна была вельмі прыгожая і адзін час да яе нават заляцаўся нябожчык пан Фальчэўскі. Пад такія перагаворы мінулага ўжо многія пачалі шкадаваць Агазіну, а найбольш гарачыя галовы — жадаць, каб яе прароцтва хутчэй здзейснілася.

І яно пачало здзяйсняцца.

Праз тыдзень пасля смерці чараўніцы Берасце скалыхнулася ад гулу званоў. «Што здарылася? Татарскі набег?» — занепакоена пыталіся адны. «Кобрынскую старасціху знайшлі мёртвай у яе палацы», — адказвалі другія. Так, першай на божы суд адправілася пані Арына.

Тады і ўспомнілі пра праклён Агазіны.

Не паспелі пахаваць пані Фальчэўскую, як рыбакі выцягнулі з прыбярэжнага чароту ссінелае цела Кузьмы Даронды.

На наступны дзень новая вестка прымусіла сціснуцца ад жаху сэрцы людзей, паспалітых і шляхты, — у сваёй хаце знайшлі Язэпа Кучму з перарэзаным горлам.

Страх скаваў горад. З надыходам цемры людзі надзейна зачынялі вароты і ўваходныя дзверы. Многія з іх не спалі, прыслухоўваліся да начных гукаў і шумаў, гадалі, ці не пакарае і іх неўтаймаваная душа Агазіны так, як пакарала большасць сваіх катаў.

І толькі Павел Хандоба не бедаваў. Кожны дзень ён прападаў у карчме «Новая падкова», да бяспамяцтва піў сам і паіў сяброў. Адкуль у яго раптам з'явіліся крэўны грошы — ніхто не пытаўся, а сам ён нічога не расказваў. Напіўшыся, Хандоба плакаў, прасіў ва ўсіх прабачэння, часта маліўся і жагнаўся. Пры гэтым на адным з пальцаў яго рукі драпежна зіхацеў вялікім рубінам прыгожы пярсцёнак.

Аднак і Хандоба не дажыў да восені — знайшлі яго з рассечанай галавой на панадворку яго ж двара. Разам з жыццём невядомы забойца забраў у шляхціца і пярсцёнак.

Смерць Хандобы была апошняй у чарзе загадкавых смерцяў, якія выклікалі безліч пытанняў, адказы на якія ніхто і не збіраўся шукаць — усё спісалі на помсту вядзьмаркі Агазіны.

V

У пачатку верасня 1551 года ў невялічкую Міхайлаўскую царкву на ўскрайку Берасця зайшоў невысокі юнак. Ён спыніўся ля ўвахода, агледзеўся і, убачыўшы святара, накіраваўся прама да яго.

— Хачу спавядацца, бацюшка, — голас юнака гучаў рашуча і роўна, — і даць ахвяру на патрэбы царквы, — з гэтымі словамі ён расціснуў пальцы рукі, і на яго далоні чырвонай зоркай заззяў пярсцёнак.

— Х-м, — бацюшка ўзяў у рукі пярсцёнак, падзівіўся, як весела пераліваецца на святле вялікі рубінавы камень, як зіхацяць дыяменты. — Вось ты які, пярсцёнак каралевы Боны! — у захапленні прагаварыў святар і працягнуў упрыгожванне юнаку: — Я не магу прыняць такую ахвяру, бо вельмі ўжо многа на ім чалавечай крыві…

— Я не забойца, бацюшка, — перапыніў святара юнак і рашуча падціснуў вусны. — Я не забіваў ні старасціху, ні яе халопаў, а Хандобу я засек у чэснай бойцы.

Святар задумаўся. Усё ж цікавасць перамагла і праз нейкі час ён кіўнуў на цёмны кут царквы:

— Што ж, калі так, то пойдзем.

У спавядальні юнак каяўся ў сваіх грахах, прасіў бацюшку памаліцца за маці. Потым ён расказаў, што пані Фальчэўскую забіў Хандоба, патрабуючы ад яе абяцаную яму ўзнагароду. Аднак тая ўжо аддала пярсцёнак Кузьме Даронду, таму як падарунак стаў прыгаворам і ёй, і Кузьме. Але і ў Даронды пярсцёнка не аказалася, бо ён прадаў яго за пяць коп грошай Язэпу Кучму. Прыйшлося Хандобу забіць і Язэпа, каб авалодаць упадабаным упрыгожваннем.

— …Мне гэта расказаў перад сваёй смерцю Хандоба, а я ў яго забраў толькі пярсцёнак маці, які ніколі не належаў каралеве Боне.

— Хаця ты і грэшны, сын мой, — святар больш ласкава зазірнуў у вочы хлопцу, — аднак ці магу я судзіць цябе сурова? Судзіць будзе Бог, а мы, сляпыя і няшчасныя грэшнікі, суддзямі адзін аднаму быць не можам, бо калі ты грэшны ў адным, то чысты ў другім, і суд чалавечы над табой будзе ўжо не суд, а падман і здзек над сумленнем, — з гэтымі словамі святар перажагнаў юнака і працягнуў яму сваю руку для пацалунку: — Ідзі з Богам, сын мой, і не збочвай са шляху дабра і справядлівасці, якія б перашкоды на ім ні чынілі цёмныя сілы.

Калі юнак пакінуў царкву, святар зноў узяў у рукі пярсцёнак, зноў падзівіўся яго незвычайнай прыгажосці. «Шкада, што ты не з каралеўскага сховішча. Пярсцёнак каралевы Боны ахутвала б мноства легенд, загадак і самых неверагодных паданняў, за ім палявалі б розныя авантурысты і прайдзісветы. А так…» — святар зацісну́ў дарагую рэч у кулак і накіраваўся да ўваходных дзвярэй, каб зачыніць іх на засаўку.

# Жанчына, прыгожая і душою, і думкамі

**Аіда ханум Імангуліева стала першым даследчыкам арабскай літаратуры новага перыяду ў галіне ўсходазнаўства і першым азербайджанскім доктарам навук па арабістыцы. Яна была незвычайнай асобай і спалучала ў сабе ўсе высакародныя якасці, уласцівыя азербайджанскай жанчыне.**

У Азербайджане ёсць показка: «Калі чалавек знешне прыгожы, то ён прыгожы і душою, і думкамі». Гэтыя словы асабліва датычаць шаноўнай Аіды ханум. Бог адарыў яе найлепшымі якасцямі. У ёй гарманічна спалучаліся розум і прыгажосць, любоў да людзей і наймагутнейшы талент у галіне навукі. Яна была чалавекам шырокага кругагляду, высокай эрудыцыі, вылучалася прынцыповасцю, але адначасова добрасардэчнасцю і чуласцю.

Аіда ханум Імангуліева нарадзілася 10 красавіка 1939 года ў Баку, у сям'і інтэлігентаў. Бацька — вядомы журналіст, педагог, заслужаны дзеяч навукі Насір Імангуліеў. Скончыўшы школу з залатым медалём, дзяўчына паступіла ў Азербайджанскі дзяржаўны ўніверсітэт імя С. Кірава, на аддзяленне арабскай філалогіі факультэта ўсходазнаўства. Выйшла замуж за сына вядомага азербайджанскага пісьменніка, вучонага-літаратуразнаўцу, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Азербайджана Мір Джалала Пашаева.

Аіда ханум Імангуліева была першай жанчынай, якая ўзначаліла Інстытут усходазнаўства Акадэміі навук Азербайджана, членам Усесаюзнага таварыства усходазнаўцаў, а таксама членам Усесаюзнага савета каардынацыі па даследаванні ўсходняй літаратуры ў СССР. Займаючыся педагагічнай дзейнасцю, зрабіла вялікі ўнёсак у стварэнне асноўнага курса па новай арабскай літаратуры ў Азербайджане і былым Савецкім Саюзе. Цягам многіх гадоў Аіда ханум Імангуліева чытала лекцыі па арабскай філалогіі ў Азербайджанскім дзяржаўным універсітэце. Большую частку жыцця прысвяціла развіццю айчыннай навукі, навуковай арганізацыі ўсходазнаўства краіны. Пад яе аўтарствам былі выдадзены тры манаграфіі, больш як 70 навуковых артыкулаў.

> *Жыццё і навуковая дзейнасць Аіды ханум Імангуліевай добра вядома беларускай аўдыторыі. Пры садзейнічанні пасольства Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь у Мінску ў 2012 годзе была перакладзеная з азербайджанскай на беларускую мову і выдадзеная кніга артыкулаў і перакладаў Аіды ханум Імангуліевай.*

Нягледзячы на загружанасць навукова-адміністрацыйнай працай, Аіда ханум заўсёды памятала пра сваю сям'ю і ў першую чаргу была выдатным чалавекам і клапатлівай маці. Разам з мужам яны выхавалі дзвюх дачок: Мехрыбан ханум і Наргіз ханум.

Цяпер Мехрыбан ханум Аліева — прэзідэнт «Фонду Гейдара Аліева», пасол Добрай волі ЮНЕСКА і ІСЕСКА, дэпутат Мілі Меджліса, выконвае высокую місію аховы і прапаганды спадчыны чалавека, які адыграў выключную ролю ў гісторыі нашай дзяржавы, агульнанацыянальнага лідара Гейдара Аліева. Сёння яна лідар цюркскага і мусульманскага свету. Наргіз ханум — заслужаны дзеяч навукі Азербайджана, вучоны-філолаг у галіне айчыннай літаратуры, аўтар шэрагу навуковых манаграфій і артыкулаў, член Саюза пісьменнікаў Азербайджана, рэктар бакінскага філіяла Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава. Муж Аіды ханум Імангуліевай, Арыф Мір Джалал — вучоны, акадэмік НАНА, доктар фізіка-матэматычных навук, Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Азербайджанскай ССР (1991), рэктар Нацыянальнай акадэміі авіяцыі. Арыф Пашаеў з'яўляецца аўтарам больш як 300 надрукаваных навуковых работ, 35 аўтарскіх пасведчанняў і патэнтаў. Пад яго кіраўніцтвам падрыхтавана 12 кандыдатаў, 3 дактары навук.

Жыццё і навуковая дзейнасць Аіды ханум Імангуліевай добра вядома беларускай аўдыторыі. Пры садзейнічанні пасольства Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь у Мінску ў 2012 годзе была перакладзеная з азербайджанскай на беларускую мову і выдадзеная кніга артыкулаў і перакладаў Аіды ханум Імангуліевай. Беларускае тэлебачанне падрыхтавала фільм, прысвечаны яе жыццю і дзейнасці. Спачыла яна 19 верасня 1992 года, пакінуўшы пасля сябе багатую навуковую спадчыну. Яе фундаментальныя даследаванні ўзбагацілі азербайджанскае і сусветнае ўсходазнаўства.

Аіда ханум Імангуліева — вучоны, які зрабіў вялікі ўнёсак у сусветнае ўсходазнаўства, жыццё якога можа служыць узорам для азербайджанскай жанчыны.

**Ісфандзіяр Бахціяр аглы ВАГАБЗАДЭ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь**






*Артыкулы і пераклады: [зборнік] / Аіда Імангуліева. — Мінск: А.М. Вараксін, 2012.*

# О голас, падораны ветру!



**Чынгіз АЛІАГЛУ**

Азербайджанская літаратура для айчыннага чытача пачынаючы з мінулага стагоддзя перастала быць terra incognita. Па-беларуску выходзілі творы Назімі, Фізулі, С. Вургуна, С. Рустама, М. Рагіма, І. Эфендзіева, М. Ібрагімава, І. Ісмаілзадэ ды многіх іншых слаўтых паэтаў і празаікаў гэтай краіны. Адным з самых важкіх дасягненняў у беларуска-азербайджанскіх літаратурных стасунках апошняга часу стаў выхад зборніка «Шчаслівая сустрэча» ў серыі «Сугучча сэрцаў», які знаёміць нас з творчасцю Анара, Н. Расулзадэ, Ф. Годжа, Г. Наджафзадэ, Г. Анаргызы, Г. Аксес ды іншых. Ёсць там і вершы Чынгіза Аліаглу — паэта, перакладчыка, публіцыста, старшыні міждзяржаўнага савета СНД па пытаннях кнігавыдання, які неаднаразова наведваў беларускія кніжныя форумы і пісьменніцкія сустрэчы. Творца сцвярджае: «Я паэт, паэзія — мой арэал жыцця, у якім я існую. Я лічу, што паэзія — гэта яшчэ і навука, якой трэба вучыцца ўсё жыццё».

## Ува сне

*Я ў вогнішча кінуў сукенку тваю,*
*І полымя зверам яе раздзірала,*
*А я назіраў, як яна дагарала,*
*І бачыў, як я, агаломшаны, побач стаю.*

*Я бачыў, як палкія рукі агню*
*Яго абдымалі, душылі і мялі.*
*Як волас трымцеў,*
*бы спалоханы мятлік,*
*Спайманы ў бязлітасную даланю.*

*І мне падалося, што хоча агонь*
*Цябе спапяліць, каб каханне спатоліць…*
*І я ўжо ніколі, ніколі, ніколі!..*
*Я кінуўся ў полымя, вынес яго.*

*І з крыкам прачнуўся. Ні гуку наўкол.*
*Ты дыхала, нібы стамлёны дзіцёнак.*
*Камін дагарэў, і ў пакоі так цёмна.*
*І холад прасцін пад маёю рукой.*

***

*О голас, падораны ветру!*
*Ён шпарка імчыць у неба,*
*бы шарык з рукі*
*дзіцячай.*
*А мы выдзьмуваем шкло —*
*з прароцтваў і вечнай прагі,*
*мы надаём яму форму*
*нашага неба.*
*Голас, падораны ветру!*
*Неба нашага голасу.*
*Неба над небам.*
*І калі мы змаўкаем,*
*крычаць яго дрэвы,*
*і падаюць ніцма*
*сады яго песень —*
*ад нашых маланак!*
*З галін асыпаецца громам*
*і грукае ў нашыя сэрцы —*
*кулак нашага голасу.*
*І мы зноў крычым — ад болю!*
*Голас, падораны ветру!*
*Неба нашага голасу!*
*І калі мы, нібыта*
*нічога не адбылося,*
*ціха сабе засяпаем…*
*Можа, тады мы пачуем*
*водгук свайго дзяцінства,*
*прысмак свайго юнацтва,*
*душаў сваіх малітву?*
*Голас, падораны ветру!*
*І калі гэты самы голас —*
*памяці вокліч горкі,*
*мы ў мітусні вакзальнай,*
*у тлуме самотных дзён, —*
*пачуем тады раптоўна*
*і плач па спаленых вёсках,*
*і стогн па ўсіх, хто не выжыў —*
*голас наш — гэта гора,*
*голас наш — гэта чырвань,*
*сцяг, што лунае ў небе! —*
*У небе нашага голасу!*

***

*Было ўсяго: і праўды, і падману.*
*Ды зло дабром ніколі не назваў.*
*Камусьці — забаўка,*
*каму — з нябёсаў манна,*
*А я сваё жыццё ў агні каваў.*

*Мне кошт вядомы і зямлі, і волі,*
*І моц радкоў, сабраных у вязьмо.*
*Мне не патрэбна лепшае спатолі,*
*Як з сябрам дарагім ісці дамоў.*

*Я лёсам крочу, нібы пыльным шляхам.*
*Няхай каменне кідаюць услед —*
*Усе муры аднойчы брукам лягуць*
*Для тых, хто пойдзе за мяне далей.*

## Вечная раніца

*Блакітнае дрэва ветру калышацца*
*і спявае,*
*голле яго шапоча*
*лістотаю аблачын.*
*Водар саспелага сонца лунае*
*ў паветры сонным.*
*За караванам вярблюдаў*
*ідуць караваны гор.*
*Горная рэчка скача —*
*дзяўчынкаю бясклапотнай —*
*з каменьчыка на каменьчык —*
*плёскат, бы смех, звініць.*
*Чорных буйвалаў статак*
*цяжка ўздыхне на пашы,*
*а жарабя і ветрык навыперадкі імчаць.*
*Над кішлаком у неба светлы дымок уецца.*
*Гэта мая матуля з раніцы хлеб пячэ.*
*Сябру — той хлеб салодкі,*
*ворагу — каменем стане!*
*Ах, як спявае вецер, я ведаю гэты спеў.*
*Ён — у маўчанні гораў, ён — у блакіце неба,*
*Ён — у зямлі, за якую гатовы памерці я!*

**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*



Кніжны свет

11 кастрычніка 2013 г.



*Ліліяна Анцух.*

# Пад небам духоўнасці

## ДА 20-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ ВЫДАВЕЦТВА «ЧАТЫРЫ ЧВЭРЦІ»

Заснаванае ў 1993 годзе выдавецтва «Чатыры чвэрці» два дзесяцігоддзі актыўна працуе на ніве духоўнай культуры Беларусі і тым добра вядома ў сацыякультурнай прасторы не толькі нашай краіны, але і па-за яе межамі. За гэты перыяд калектывам выдавецтва падрыхтавана і выдадзена амаль 1600 найменняў кніг агульнай колькасцю каля 1,2 млн. асобнікаў.



*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі.*

### БЛАСЛАВЁНАЕ ВЫДАННЕ

Святло праваслаўя азарае дзейнасць выдавецтва пачынаючы з першых выдавецкіх доследаў. Найбольш яркім і значным з'яўляецца праект, які па колькасці яго ўдзельнікаў можна аднесці нават да даследчыцкага, — серыя «Нашы духоўныя каштоўнасці», якая выходзіць з 1995 г. па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Створаныя ў выніку карпатлівай працы кнігі-альбомы — узор фарміравання папулярных уяўленняў пра хрысціянскія ісціны.

Мітрапаліт Філарэт ва ўступным слове да першага выпуску праекта «Нашы духоўныя каштоўнасці» вызначыў яго галоўную мэту: «Людзі ў нашай краіне шмат у чым страцілі не толькі духоўнае жыццё, — для большасці з іх аказаліся згубленымі і самыя зразумелыя ісціны пра Хрыста, пра Царкву, усякае веданне аб святынях. Серыя мае на мэце запоўніць, хай у малой ступені, гэтыя страты, даўшы чытачу папулярныя ўяўленні аб праваслаўных святах, рэліквіях, храмах. Асаблівая ўвага будзе нададзена святасці на Беларускай зямлі». А прафесар Мінскіх духоўных школ В. А. Цяплова пасля выхаду першых выпускаў серыі ў кнізе «Послушанию преданный» адзначыла, што гэты выдавецкі праект увойдзе ў гісторыю беларускай кнігавыдавецкай справы як помнік праваслаўнай духоўнай культуры мяжы XX — XXI стагоддзя.

У 2012 — 2013 гг. ішла напружаная праца па напісанні кнігі **«Праваслаўныя святыя зямлі Беларускай»** (6-га выпуску серыі «Нашы духоўныя каштоўнасці»), прысвечанай 1150-годдзю славянскага пісьменства і 1025-годдзю Хрышчэння Русі. Вядома, кніжная памяць амаль не захавала звестак пра святых, і таму пры падрыхтоўцы кнігі ў якасці навуковых кансультантаў выдавецтвам былі запрошаны святары (епіскап Тураўскі і Мазырскі Стэфан, кандыдат багаслоўя протаіерэй Мікалай Коржыч, доктар багаслоўя протаіерэй Сергій Гардун, кандыдат багаслоўя протаіерэй Феадор Крыванос), гісторыкі (кандыдат гістарычных навук Лідзія Кулажанка), іканапісцы з Беларусі, Расіі, Украіны (П. Жараў, А. Мельнічэнка, С. Бышнеў, А. Косікаў, П. Няфёдаў, іканапісная майстэрня «Взор» г. Барысава). Многія адгукнуліся на прапанову, спрыяючы тым самым стварэнню рэальнай карціны жыцця святых зямлі Беларускай.

Паколькі жыццёвыя шляхі святых праходзілі ў розныя гістарычныя эпохі, і аповеды пра іх дапамагаюць яшчэ і яшчэ раз раскрыць для сябе веліч і трагізм нашага гістарычнага мінулага, і не толькі даўніны, а і бліжэйшага часу — гады рэпрэсій, Вялікай Айчыннай вайны, — ацаніць значнасць перамен у духоўным росце нашага народа.

Несумненна, многае з подзвігаў святых яшчэ трэба будзе даследаваць. Але нават тое, што пакладзена выдавецтвам на старонкі кніг, — гэта жыватворныя вехі, праз якія кожны чалавек можа атрымаць неацэнную дапамогу ў вызначэнні ўласнага духоўнага шляху.

Змест дадзенай кнігі прадстаўлены на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай. Структура ўключае ў сябе ўступнае слова Мітрапаліта Філарэта, за ім змешчаны артыкул кандыдата багаслоўя протаіерэя Феадора Крываноса «Подзвіг святасці ў кантэксце царкоўнай гісторыі Беларусі», дзе паказаны асноўныя падзеі гісторыі Праваслаўнай Царквы ў Беларусі, умовы, у якіх здзяйснялася жыццё і падзвіжніцкая дзейнасць святых. Асноўную частку выдання складаюць два раздзелы: першы — «Сабор беларускіх святых» і другі — «Сабор навамучанікаў і спавядальнікаў», дзе выкладзены кароткія апавяданні-нарысы пра жыццё святых у адпаведнасці з рангамі святасці. Адрозненне кнігі ад іншых выданняў гэтай тэматыкі ў тым, што тут упершыню прыведзены поўны збор імёнаў святых, складзены падрабязны даведачны раздзел для той катэгорыі чытачоў, якія імкнуцца паглыбіць ужо атрыманыя веды. Кніга таксама ўтрымлівае інфармацыю пра храмы, прыходы і манастыры нашай зямлі, якія носяць імёны беларускіх святых.

### СПАДЧЫНА БЕЛАРУСІ

Выдавецтва «Чатыры чвэрці» за 20 гадоў існавання ні на хвіліну не спыняла свайго творчага руху і за гэты час дало магчымасць убачыць свет творам шматлікіх аўтараў — як прадстаўнікоў навукова-даследчай, вучэбнай, гістарычнай сфер жыцця, так і сучасных пісьменнікаў, мастакоў, таленавітых творцаў, якія духоўна ўзбагачаюць беларускую культуру, выхоўваюць маладое пакаленне.

Трэба абавязкова ўзгадаць кнігу Э. М. Загарульскага **«Белая Русь с середины I тысячелетия до середины XIII века»**, якая прысвечана 1150-годдзю славянскага пісьменства, 1025-годдзю Хрышчэння Русі і атрымала блаславенне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Гэтая манументальная праца беларускага гісторыка і археолага — вынік даследавання аднаго з самых цікавых перыядаў развіцця Беларусі, што ахоплівае амаль тысячу гадоў.

У духоўную скарбонку выдавецтва паклала кнігу **«Пастыр добры зямлі Нясвіжскай»**, якая распавядае пра ганаровага грамадзяніна горада Нясвіжа, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога настаяцеля Свята-Георгіеўскага храма ў Нясвіжы Дзімітрыя Хмеля.

У выпушчаным выдавецтвам рамане нядаўна пайшоўшага з жыцця Мікалая Еляняўскага **«Время пастыря»** на дакументальных сведчаннях паказаны велізарны ўнёсак, які зрабіла праваслаўнае духавенства XIX стагоддзя ў развіццё адукацыі, культуры, духоўнай маральнасці народа сучаснай тэрыторыі Беларусі.

Скразной тэмай кнігі **«Прогулки со старой картой» Людмілы Хмяльніцкай** з'яўляецца гісторыя стварэння праваслаўных храмаў, манастыроў, якая арганічна ўпісваецца ў летапіс старажытнага Віцебска і аповед пра сучаснае духоўнае жыццё горада, узнаўленне святынь.

Варта адзначыць яшчэ два выданні, скіраваныя на маральнае развіццё грамадства: **«Любовь. Путевые заметки»** айца Паўла Баянкова і **«София Слуцкая»** сумеснага аўтарства публіцыста Ірыны Масляніцынай і гісторыка Мікалая Багадзяжа. Кніга П. Баянкова прысвечана тэмам кахання, веры, вечных евангельскіх сімвалаў у сучаснасці. «София Слуцкая» — спроба стварэння поўнага праўдзівага жыццяпісу святой княгіні Сафіі ў кантэксце яе эпохі. Выдатныя ілюстрацыі майстра графікі Арлена Кашкурэвіча дапамагаюць зрабіць уяўленне пра княгіню больш змястоўным.

Выпушчана другое выданне альбома **«Скарбы Беларусі»**. Гэта працяг серыі выданняў мастацкага праекта **«Спадчына Беларусі»**, які таксама быў блаславёны Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам і скіраваны на адлюстраванне прыгажосці і значнасці гістарычных шэдэўраў і помнікаў архітэктуры, у тым ліку праваслаўнай, Беларусі.

Значную ўвагу выдавецтва, як і раней, надае выпуску кніг сучасных беларускіх аўтараў. Перш за ўсё трэба ўзгадаць **серыю «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі»**, а таксама распачатыя ў 2011 г. **серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі»**, **«Мінскія маладыя галасы»**, што рыхтуюцца сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. З гэтымі кнігамі выдавецтва чытач адкрые для сябе найлепшыя ўзоры мастацкай прозы і паэзіі. Кнігі серыі «Мінскія маладыя галасы» для таленавітых юнакоў і дзяўчат — своеасаблівая пуцёўка ў вялікую літаратуру. За апошнія два гады толькі ў згаданых серыях было выпушчана больш як 20 назваў.

### ПАРТРЭТ АСОБЫ НА ФОНЕ ЧАСУ

Уласная выдавецкая **серыя «Асоба і час»** знаёміць з творчым жыццём вядомых літаратараў і грамадскіх дзеячаў краіны. Па выніках двух гадоў серыя аб'яднала некалькі масцітых аўтараў. Напрыклад, кнігі **«Міхась Пазнякоў: Тварыце, людзі, на зямлі дабро»**, **«Навум Гальпяровіч: На шляху да сябе…»**, **«Алесь Савіцкі: Сонца на ўсіх адно»**, **«Уладзімір Гніламёдаў: Заставацца сабой…»** раскрываюць пісьменніцкі і публіцыстычны талент гэтых знакамітых асоб, распавядаюць пра іх фарміраванне, даюць прыклад для духоўнага росту маладым літаратарам.

**«Дзеці вайны»** — яшчэ адна знакавая выдавецкая серыя, заснаваная выдавецтвам у год 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і накіраваная на ўшанаванне памяці пра гэтую гераічную і трагічную падзею, людзей, якія пакутавалі і змагаліся за Радзіму, на выхаванне патрыятызму ў маладых грамадзян.

**Заканчэнне чытайце на стар. 10**

# ПраваКацыйнасць ці імітацыя?



Апрача іншага, X міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар-2013» вызначаўся інтэрнацыянальным журы. На фэсце 2011 года італьянскі рэжысёр і тэатральны крытык Клаўдзіа Факінелі атрымаў спецыяльную прэмію за вялікі ўнёсак у развіццё тэатра, а сёлета быў запрошаны ў Крытык-клуб, дзе штодзень ішлі дэбаты і абмяркоўваліся спектаклі.

**— Клаўдзіа, як даўно вы супрацоўнічаеце з «Тэатральным куфрам»?**

— Упершыню я наведаў конкурс у 2007 годзе ў якасці члена журы. І ўжо тры гады як трапіў у Крытык-клуб. Такім чынам, для мяне гэта ўжо чацвёрты «Куфар».

**— Што прадэманстравала гледачам сцэнічнае спаборніцтва 2013 года?**

— Як заўсёды, сумесь традыцый і новага. Я больш зацікаўлены ў пошуку і так званым авангардным тэатры — люблю рабіць для сябе адкрыцці. Калі трапляеш на спектакль і загадзя разумееш, хто забойца, — ніякай асалоды. Куды больш прыемна нічога не ведаць, нават калі ў фінале высветліцца, што злодзеем увесь час быў рэжысёр, — смяецца Клаўдзіа. — Падчас «Куфра» я ўбачыў даволі традыцыйныя пастаноўкі паводле Астроўскага, у якіх не сказана нічога новага. Некаторыя эксперыментальныя спектаклі атрымаліся арыгінальнымі і вельмі сучаснымі. Напрыклад, пастаноўка студэнцкага тэатра Тартускага ўніверсітэта Эстоніі «Жывеш так і не заўважыш, як на тым свеце апынешся». На жаль, з-за маўленчага бар'ера я нічога не зразумеў, але дзеянне было прыгожым і эстэтычным.

Часам — і гэта лепш за ўсё! — мова тэатра настолькі моцная і выразная, што можна лёгка прасачыць за ўсім, што адбываецца на сцэне. Так было на праглядзе п'есы «Самалёт Вані Чонкіна» Літаратурна-мастацкага тэатра Томскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Магчыма, я здолеў асэнсаваць сюжэт, таму што крыху размаўляю па-руску. Аднак пачуццё задавальнення ўзнікла. Менавіта дзякуючы якасці пастаноўкі. Яна была звычайнай, але мне спадабалася мужнасць тэатра. Томская трупа вырашыла распавесці пра драматычныя падзеі ў СССР напярэдадні Другой сусветнай вайны ў форме мюзікла — з выдатнай музыкай, прыгожымі галасамі і таленавітымі акцёрамі. Цяпер ужо няма Гітлера і Сталіна, але ёсць іншыя асобы, ад якіх мы залежым і якіх не хваліце чалавек з ягонымі спробамі знайсці шчасце — толькі ўласнае багацце ды моц! Таму «Самалёт Вані Чонкіна» не толькі пра мінулае, але і пра сучаснасць.

**— А што вы думаеце пра пластычны спектакль трупы беларускага Карнягтэатра «Латэнтныя мужчыны»? Нехта палічыў яго занадта правакацыйным, але ўдзельнікі дыскусіі Крытык-клуба ацанілі наватарства.**

— «Латэнтныя мужчыны», даволі блізкія да авангарднага тэатра, спадабаліся мне. Гэта новае выкарыстанне мужчынскага цела, дзе моцны пол дзейнічае як слабы, а жанчыны выконваюць свае ролі прыгажунь з сарказмам і самаіроніяй. Там узнята сучасная праблема, да якой падышлі з вельмі эстэтычнага пункту гледжання. Безумоўна, гэта не сямейны спектакль. Але, нягледзячы на мову андэграўнда, усё было этычна і маральна.

**— У вас з'явіліся фаварыты сярод удзельнікаў конкурсу?**

— Не магу сказаць, які са спектакляў мне больш спадабаўся. На шчасце, я не член журы і не павінен ставіць адзнакі. Адны было прыемна глядзець, а некаторыя назваў бы дарэмнымі нават з улікам аматарскага ўзроўню і непатрэбнымі. Адзін са спосабаў арганізацыі такога тэатра — пошук чагосьці новага, а не спробы прадэманстраваць вядомыя ўзоры драматычнага мастацтва. Калі вы пераймаеце досвед прафесійнага тэатра, атрымліваецца толькі імітацыя. Класічны прафесійны тэатр усё роўна застанецца на некалькі прыступак вышэй. Таму і не адчуў асалоды ад некаторых п'ес.

**— Што можна сказаць пра «Тэатральны куфар» з пункту гледжання арганізацыі?**

— Арганізацыя X фестывалю мне падалася больш слабай. У маё першае наведванне спецыяльна падрыхтаваныя маладыя людзі дапамагалі замежнаму журы сарыентавацца ў незнаёмай краіне, а цяпер — калі толькі выпадкова. Часта ўзнікалі непаразуменні з-за мовы. Калі казаць асабіста пра сябе, то складанасці былі з-за таго, што мне абяцалі, але так і не знайшлі патрэбны для працы Wi-Fi. Аднак, безумоўна, самае галоўнае на «Куфры» — тэатр, а ён якраз быў не горшы за мінулыя разы.

**— Як вы ўвогуле ставіцеся да аматарскіх студэнцкіх пастановак, да тэатральнай адукацыі?**

— Станоўча. Заўсёды спрабую знайсці ў іх паэзію і эстэтыку. Раней я і сам быў выкладчыкам, таму адчуваю ўсю істотнасць выхавання моладзі праз тэатр. Як толькі пачынаў працу са студэнцкімі тэатрамі, зразумеў, што гэта добры спосаб дапамагчы тынэйджарам знайсці сябе і асэнсаваць значэнне невербальных сувязей. Падлеткі не ўмеюць дакранацца адзін да аднаго — баяцца. А ісці наперад у гэтай сферы, даследаваць магчымасці свайго цела ў сэнсе адносін і камунікацыі вельмі важна.

Акрамя таго, тэатр можа быць спосабам паглыблення маральных каштоўнасцей. Маладыя людзі пражываюць на сцэне тое, пра што звычайна ў іх узросце проста чытаюць, і транслююць гэта на аўдыторыю. У такім выпадку мы кажам пра навучанне студэнтаў самімі студэнтамі. Існуе нават спецыяльны тэрмін, *peer education* (даслоўна «ўзаемнае навучанне»), распаўсюджаны і ў Італіі. Тут не сямідзесяцігадовыя дзеляцца з маладымі сваёй мудрасцю, а падлеткі спрабуюць абменьвацца ведамі адзін з адным. Таму мерапрыемствы накшталт «Тэатральнага куфра» не толькі прыгожае відовішча, але і значны ўнёсак у адукацыю.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



*Фота з сайта novopolotsk.by*

# Ганна Шэлепава: «Тэатраў шмат — фестываляў мала»

На ўваходзе ў залу — прыгожыя тэатральныя праграмкі. На працягу ўсяго спектакля — шчыры смех гледачоў, сапраўдная зацікаўленасць і суперажыванне. «Максіміліст» у пастаноўцы студэнцкага тэатра «АРТ» з Полацка, прадстаўлены на «Тэатральным куфры», пацвердзіў: у Беларусі ёсць высокапрафесійныя студэнцкія тэатральныя калектывы, не горшыя за замежныя. Рэжысёр тэатра Ганна Шэлепава распавяла пра нялёгкае, але цікавае жыццё студэнцкага тэатра «АРТ».

**— Які ўжо раз вы бераце ўдзел у «Куфры»? Чым прыцягвае гэты праект?**

— Мабыць, раз пяты прыязджаем. У Беларусі гэта адзіны фестываль такога высокага ўзроўню: сур'ёзны адбор і шмат замежных калектываў. Ды яшчэ магчымасць паказаць спектакль сябрам, якія раней займаліся ў нашым тэатры, а цяпер жывуць у Мінску.

**— Чаму ваш спектакль заяўлены ў пазаконкурснай праграме?**

— Наша задача — даслаць відэа свайго спектакля, а далей вырашае спецыяльная камісія. Сёлета атрымалася паўдзельнічаць вось так.

**— Вы вельмі старанна падрыхтаваліся: і праграмкі (дзіўна, але не ва ўсіх удзельнікаў яны ёсць!), і дэкарацыі добрыя…**

— Гэта элементарная павага да гледача. Калі ёсць магчымасць — трэба рабіць. Іншая справа, калі калектывы жывуць за вельмі маленькія грошы. Праўда, і нам грошы ніхто не выдзяляе — самі зарабляем!

**— Чаму выбралі для «Тэатральнага куфра» менавіта п'есу «Максімаліст»?**

— Гэта цудоўная драматургія, вельмі надзённая праблематыка. Увогуле, трагікамедыя і трагіфарс —жанры, у якіх я адчуваю сябе найбольш лёгка. Добра, калі ў пастаноўцы ёсць і смешныя, і філасофскія моманты. Дарэчы, з гэтым спектаклем мы прайшлі адбор на Міжнародны фестываль рускіх тэатраў, які праводзіць Рускі культурны цэнтр у Будапешце. Ведаеце, ніхто нікога проста так нікуды не запрашае — толькі праз конкурсы і адборы. Тэатраў шмат, а фестываляў мала. У гэтым і складанасць...

**— Якія былі цяжкасці падчас падрыхтоўкі спектакля? Усё ж такі студэнцкі тэатр...**

— Спектакль іграе наша асноўная трупа, таму асаблівых цяжкасцей не ўзнікла. Бяруць удзел акцёры, якія працуюць у тэатры ўжо па шэсць, восем, дзесяць гадоў... Калектыў мае званне «заслужаны», і гэта прадугледжвае наяўнасць як асноўнага складу (тых, хто займаецца ў тэатры больш як пяць гадоў), так і студэнцкага.

**— Значыць, ёсць акцёры, якія заканчваюць універсітэт, але не кідаюць тэатр?**

— Так. Яны пачынаюць працаваць, нараджаюць дзяцей — і вяртаюцца. Яны дарослыя людзі, усё вельмі сур'ёзна.

**— Ці звяртаецеся да сучаснай беларускай драматургіі?**

— Цяпер ставім п'есу нашага сучасніка Андрэя Зінчука «Наперад, кацяня!». Тэатр «Арт» не спіць — працуе і спадзяецца на ўдзел у конкурснай праграме «Тэатральнага куфра» наступнага года.

**Паліна ПЛАТАВА**

# У свеце валадарыць... гардэроб

Па-за межамі конкурснай праграмы міжнароднага фестывалю студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар» адбылася пастаноўка трагіфарса «Максімаліст», створанага таленавітым балгарскім пісьменнікам і драматургам Станіславам Страцыевым.

Пачатак спектакля знаёміць са шчаслівымі закаханымі Слаўчо (Сяргей Шчарбакоў) і Іванкай (Ганна Марозава). Яны толькі пачынаюць сумеснае жыццё і будуюць планы на будучыню ў маленькай беднай кватэры. Дзяўчына марыць пра пакупку гардэроба, які ўпрыгожыў бы іх інтэр'ер і стаў першым крокам на шляху да стаці незалежнага грамадскага статусу. Раптам маладыя страчваюць кантроль над падзеямі, бо доўгачаканая шафа пачынае… размаўляць. Ды каб толькі размаўляць! Яна малюе пейзажы і партрэты, займаецца самаразвіццём, хварэе амаль як звычайны чалавек, а галоўнае — умешваецца ў жыццё сям'і, прымушае паводзіць сябе згодна з яе правіламі. Высвятляецца, што яны, гардэробы, ужо даўно кантралююць чалавецтва. «Сустракаюць па адзенні», — нагадвае моладзі ганарысты прадмет. Вопратка вырашае лёс чалавека, касцюм падчас кажа больш за ўчынкі асобы.

Узаемадзеянне акцёраў і шафы — сапраўдны фарс, які хутка перарастае ў трагедыю. Рушыцца ўсё: надзеі, сяброўства, сям'я. Адзін за адным з'яўляюцца людзі, гатовыя дзеля грошай і сацыяльнага статусу выслужвацца нават перад «істотай» з дошак і спрэсаванага пілавання. Ім супрацьпастаўлены галоўны герой Слаўчо. Праз размовы з непадкупным хлопцам, які адмаўляецца ад улады рэчаў, выяўляюцца заганы сучаснага чалавецтва. «Свет такі, які ёсць. Лягчэй змяніць сябе, чым усіх астатніх», — гучыць з вуснаў маладушных дарадчыкаў. Яны ўжо ўцямілі, што дзейнічаць трэба праз лісліваць і хітрасць, што абсурд навокал трэба прымаць, а калі не згодзен — рабіць выгляд, што жывеш па яго правілах. І калі спачатку ты толькі глядач у цырку жыцця, з цягам часу тыя правілыператвораць цябе ў аднаго з блазнаў, якія выслужваюцца перад публікай. Слаўчо застаецца зусім адзін. Гэта лёс кожнага, хто востра адчувае фальш і адмаўляецца ад яе. «Максімаліст!» — выносіцца канчатковы прысуд.



*Фота Дзмітрыя Веляскевіча*

*Сцэна са спектакля «Максімаліст».*

Дэкарацыі ў спектаклі простыя, але патрабуюць увагі. Усё дзеянне адбываецца ва ўтульным небагатым пакойчыку, дзе жыве маладая сям'я. І калі глабальных змен у афармленні інтэр'ера няма, змены псіхалагічнага стану герояў адбываюцца ў дэталях. Так, на пачатку п'есы Слаўчо дорыць жонцы слонікаў з узнятымі хобатамі — сімвал кахання і дабрабыту, яны стаяць побач на імправізаваным сямейным алтары. Падчас сваркі Іванка ў роспачы разносіць слонікаў па розных кутах, а калі запрошаны на дапамогу шафе цясляр з размаху апускае сякеру на апусцелы алтар, становіцца зразумела, што гэта сям'я ўжо ніколі не будзе разам.

Яшчэ адна адметнасць — бліскучае выкананне рэжысёрам Ганнай Шэлепавай ролі Суседкі. А вось канцоўка пастаноўкі, зробленая тэатрам «Арт», адрозніваецца ад арыгінала. Полацкая версія — тыпова беларуская. Калі гарачы балгарскі хлопец рашуча знішчае злашчасную шафу, Слаўчо сумна ставіць на месца раскіданых слонікаў і паціху сыходзіць са сцэны. Такая развязка наблізіла падзеі да гледача.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Ала ЗАНЬКО, дырэктар Ганцавіцкага раённага краязнаўчага музея, распавядае пра даследаванні, звязаныя з трагічнымі падзеямі Вялікай Айчыннай вайны:**

— У маі мне патэлефанаваў жыхар Пінска Анатоль Пятровіч і пацікавіўся, ці ёсць у фондах музея матэрыялы пра атрад народных мсціўцаў пад кіраўніцтвам Антона Брынскага і разведчыка Мікалая Вялько. Партызанская база размяшчалася непадалёк ад вёскі Боркі, якая неадназова згадвалася ў мемуарах А. Брынскага.Менавіта адсюль быў і М. Вялько, якому Антон Пятровіч прысвяціў у кнізе «Па той бок фронту» цэлы раздзел.

Пра атрад разведчыкаў агульныя звесткі ў нас меліся, але больш дакладных матэрыялаў было зусім мала, толькі фотаздымкі некаторых партызан і ўрыўкі з кнігі «Па той бок фронту», якія датычылі М. Вялько. Пры сустрэчы А. Пятровіч падзяліўся сваімі ўспамінамі пра дзеянні аднаго з падраздзяленняў галоўнага разведвальнага ўпраўлення генеральнага штаба Чырвонай арміі на акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі. Асобна наш суразмоўца спыніўся на дзеяннях атрада А. Брынскага ў ліпені 1942 года.

Нас гэтая тэма вельмі зацікавіла, таму вырашылі наведаць жыхарку вёскі Боркі Таццяну Рабцэвіч, якой у 1942-м споўнілася пятнаццаць гадоў. Бацька яе і адзін са старэйшых братоў сталі, як і шматлікія іх землякі, партызанскімі сувязнымі. Але гестапаўцам данеслі, хто ў Борках дапамагае партызанам. Мясцовы актывіст, дэпутат Любашэўскага сельсавета Мікалай Вялько вымушаны быў сысці ў лес, бо адчуў, што немцы пачалі на яго паляванне. Але ворагі расправіліся з яго сям'ёй.

На досвітку 12 ліпеня, на свята Пятра і Паўла, на Боркі наляцелі фашысты. У гэты дзень яны расстралялі за сувязь з партызанамі 49 мясцовых жыхароў, у тым ліку і сем'і братоў Рабцэвічаў — Мікалая, Рыгора і Карпея. Мікалай Вялько стаў нявольным сведкам расправы немцаў над людзьмі, але нічым дапамагчы не мог. З гэтага дня ён прасіўся на самыя небяспечныя і адказныя заданні. Неяк, вяртаючыся ў атрад, патрапіў у засаду. Яго доўга катавалі, потым пасадзілі ў жалезную клетку і вазілі па вёсках, паказваючы «бандыта». Пасля чаго разведчыка расстралялі.

Пасмяротна Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за ўзорнае выкананне баявых заданняў камандавання ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі і праяўленыя доблесці і мужнасці чырвонаармеец Мікалай Акімавіч Вялько быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Мы працягваем пошук матэрыялаў пра дзейнасць партызан на чале з А. Брынскім. І імкнёмся да таго, каб у Борках на месцы, дзе пахавана сям'я Мікалая Вялько, была пакладзена надмагільная пліта з адпаведным надпісам, а прозвішча самога разведчыка занесена на мемарыяльную пліту, якая ўсталявана на месцы масавых расстрэлаў у Ганцавічах.

*Цікава ведаць*

## Жыве традыцыя

Рэгіянальная выстаўка дзіцячай творчасці «Вясёлка над Сожам і Дняпром» працуе ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Прадстаўленыя работы адлюстроўваюць дасягненні і досвед аб'яднанняў па інтарэсах, якія займаюцца выяўленчай і дэкаратыўна-прыкладной творчасцю ў Гомельскай вобласці, традыцыі мясцовых мастацкіх промыслаў. Прынамсі, экспануецца калекцыя ручнікоў, выкананых юнымі нашчадкамі майстроў вёскі Няглюбка Веткаўскага раёна. Традыцыі старой парыцкай керамікі знайшлі свой працяг у вырабах навучэнцаў народнай студыі «Сузор'е» Парыцкага раённага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

Усяго ў экспазіцыю ўвайшло каля 300 работ выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: жывапіс, графіка, ткацтва, вышыўка, кераміка, вырабы з паперы, саломапляценне, тэкстыльныя лялькі, а таксама фотаздымкі. Удзел у выстаўцы бяруць навучэнцы і педагогі ўстаноў дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, агульнаадукацыйных школ Гомеля, Веткі, Добруша, Ельска, Жыткавіч, Жлобіна, Калінкавіч і інш. Арганізатарамі экспазіцыі выступілі Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, Міністэрства адукацыі Беларусі, Гомельскі абласны Палац творчасці дзяцей і моладзі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Музейны ўнікат*

# Незабыты патэфон

Традыцыйны палескі касцюм, тканыя рэчы, вышыўкі, даўнейшыя прадметы побыту прадстаўлены ў невялічкім музеі Веляцінскага сельскага Дома культуры Хойніцкага раёна.

Пачэснае месца займае тут і патэфон, выраблены ў 1938 годзе на Каломенскім патэфонным заводзе ў Расіі. Прайгравальнік прынесла сюды 75-гадовая жыхарка вёскі Пятраш Валянціна Півавар. Жанчына распавяла, што з'явіўся ён у доме ў пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Яе бацька, былы франтавік, справядліва меркаваў, што патэфон зрабіў пэўны ўнёсак у вялікую Перамогу. З усмешкай бацька часта ўзгадваў пра тое, як збіраліся байцы вакол прайгравальніка падчас зацішша на фронце або святкуючы Новы год.

Патэфон нібыта прыадкрываў акенца ў мінулае для франтавых сяброў, якія залечвалі раны ў шпіталі горада Тамбова. Медыцынскія сёстры прыносілі музычны інструмент у палату і па некалькі разоў ставілі адны і тыя ж пласцінкі. У такія хвіліны байцы ўспаміналі сваіх родных, марылі пра хуткую перамогу...

Пазней стары франтавік часта напяваў песню «Днём і ноччу» Леаніда Уцёсава. У ёй ёсць радкі і пра тое, як дзесьці пад Варшавай быў пашкоджаны мінай каломенскі патэфон. А яшчэ ў яго была мара — набыць гэтую рэч. Услых пра яе не гаварыў, але здзейсніў». Як вядома, у пасляваенны час калгаснікам грошы не плацілі, а разлічваліся натураплатай. І вось, нагрузіўшы мяхі са збожжам на воз, мужчына паехаў на базар у Калінкавічы, каб атрымаць капейчыну і набыць вопратку для дзяцей. Вярнуўся вельмі задаволены. Гэты добры настрой не сапсавала нават вялікая сварка з жонкай, якая ўбачыла, што большая частка грошай пайшла на патэфон, набыты «з рук».

Сварка хутка забылася, а вясковую дзятву, якая не ведала тады пра дыскатэкі, патэфон часта збіраў на самадзейныя танцы ў двары. Танчылі і дарослыя, калі сыходзіліся на пасядзелкі.

Эпоха патэфона ў гэтай сям'і закончылася тады, калі набылі радыёлу. Мінула ўжо тры дзясяткі гадоў, як бацькі дарыльшчыцы пайшлі з жыцця. А сама жанчына і яе аднагодкі-



вяскоўцы захавалі пра гэты патэфон цёплыя ўспаміны, якія навяваюць лёгкі смутак пра былое. Цяпер і маладое пакаленне веляцінцаў будзе ведаць пра цудадзейны музычны інструмент і звязаныя з ім далёкія падзеі.

**Клаўдзія БОСАК, фота аўтара**

*«Круглы стол»*

# Як завабіць у музей?

У літаратурным музеі Максіма Багдановіча прайшоў «круглы стол» на актуальную тэму «Роля літаратурных музеяў у развіцці адукацыйнай прасторы».



*Ларыса Маторына і Таццяна Шэляговіч (злева направа).*

Гасцей і ўдзельнікаў мерапрыемства вітала дырэктар Таццяна Шэляговіч:

— Музей з першых дзён існавання імкнецца рэалізаваць пачыннанні самага рознага кшталту. Але ў аснове іх палягае не толькі дзейнасць супрацоўнікаў, але і прыцягненне да супрацоўніцтва шматлікіх устаноў, у тым ліку адукацыйных. Сапраўды, ёсць патрэба сустракацца, гутарыць і абмяркоўваць з калегамі нашы праблемы, знаходзіць шляхі іх вырашэння. Дзеля гэтага мы сёння і сабраліся.

Мэтамі «круглага стала» былі названы «ўзмацненне аўтарытэту літаратурнага музея ў сучаснай адукацыйнай прасторы» і «аналіз сітуацыі, абмен досведам і адаптацыя дасягненняў у галіне музейна-адукацыйнай дзейнасці». Што гэта значыць? Сёння музей, на жаль, не з'яўляецца найбольш папулярным месцам адпачынку ці сродкам пашырэння адукацыі, прычым не толькі ў Беларусі, але, як распавялі госці з Ніжняга Ноўгарада, і ў Расіі. Тым горш выглядае становішча музеяў літаратурных, у якіх кола патэнцыяльных наведвальнікаў даволі вузкае. Таму супрацоўніцтва з т. зв. «адукацыйнай прасторай» — школамі, універсітэтамі, каледжамі, а таксама бібліятэкамі, нават тэатрамі і г. д. — з'яўляецца неабходным. І не толькі для музеяў. У першую чаргу гэта трэба самім людзям. Дзеля іх, у рэшце рэшт, і працуюць такія ўстановы. Як адзначыла Ларыса Маторына, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея М. А. Дабралюбава ў Ніжнім Ноўгарадзе, адна з першасных задач — адкрыць людзям вочы на тое, што музей ім сапраўды патрэбны.

У «круглым стале» ўзялі ўдзел прадстаўнікі 11 музеяў, у тым ліку расійскіх: музея імя М. Дабралюбава (Ніжні Ноўгарад) і музея Максіма Багдановіча (г. Яраслаўль). Даклады супрацоўнікаў збольшага былі прысвечаны сучаснаму становішчу ўстаноў і ў прыватнасці — інавацыйным формам працы з наведвальнікамі. Але, як паказаў досвед, усё новае — добра забытае старое. Так, ніжагарodскія калегі распавялі, што вялікім поспехам у музеі Мікалая Дабралюбава карыстаюцца спектаклі, якія распавядаюць пра жыццё расійскага крытыка.

— Умовы нашай працы ўскладняюцца тым, — тлумачыць дырэктар Ларыса Маторына, — што Мікалай Дабралюбаў — крытык, а не паэт, як, скажам, Максім Багдановіч. Вакол паэта заўжды ёсць аўра таямнічасці, яна рамантычная і прыцягальная. Асоба ж крытыка такой абаяльнасці не мае. Таму перш за ўсё мы імкнемся паказаць Дабралюбава як чалавека, да таго ж, чалавека маладога, таленавітага, са складаным лёсам. Спектаклі гэтаму спрыяюць. Многія нашы наведвальнікі прыходзяць дзеля іх, хоць і глядзяць пастаноўку не адзін раз. А замест дэкарацый мы маем сам дом Дабралюбава, яго непаўторную атмасферу.

Акрамя музейных супрацоўнікаў слова бралі прадстаўнікі адукацыйных устаноў, так бы мовіць, зваротны бок: выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Людміла Аляксеева і загадчык кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта Мікалай Трус.

— Музей — гэта фартэцыя, аб падножжа якой разбіваюцца самыя розныя хвалі, яны набягаюць і адхлынваюць, — зазначыла супрацоўніца музея М. Дабралюбава Галіна Дзмітрыеўская. — Мы не прэтэндуем на ісціну ў апошняй інстанцыі, аднак супрацьстаім легкадумным і часта пустым уплывам часу. Гэта наша місія, і пра гэта мы мусім памятаць. Як і пра тое, што павінны захоўваць і перадаваць не інфармацыю, а менавіта веды.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# І гузік можа распавесці гісторыю



*Жэром Бакур з ядром (вагой 16 кг) і штыком падчас сёлетніх раскопак каля Студзёнкі.*

**У французаў ёсць прымаўка: «Як на Бярэзіне». Так кажуць, калі чакаецца нейкая складаная справа, бо памяць пра Бярэзіну перадаецца з пакалення ў пакаленне. Менавіта на берагах гэтай ракі, пад Барысавам, у вёсцы Студзёнка і на Брылеўскім полі вырашаўся лёс не толькі Напалеона і французскай арміі, але і ўсёй Еўропы. Тут стваралася гісторыя: руская, французская, беларуская, польская, нямецкая.**

## БЕЛАРУСКА-ФРАНЦУЗСКАЕ ПАРТНЁРСТВА

У лістападзе 1812 года каля Студзёнкі загінула значная частка войска Напалеона. Бярэзінская пераправа, па сведчанні гісторыкаў, стала самай змрочнай старонкай у гісторыі войнаў вялікага палкаводца. І вось беларуская і французскія археолагі, якія другі сезон запар вядуць тут раскопкі, вырашылі прыадкрыць яшчэ адну гістарычную старонку.

Як патлумачылі археолагі, 20 сантыметраў глебы здымаецца экскаватарам, бо яна «пустая» для навукоўцаў з-за шматгадовага разворвання і «працы» скарбашукальнікаў. Далей вучоныя на мацерыковай паверхні ўважліва адсочваюць цёмныя плямы — гэта значыць, што там можа быць штосьці патэнцыяльна цікавае. А можа, і наадварот, — проста сляды гаспадарчай дзейнасці чалавека.

— Самай доўгачаканай знаходкай для навукоўцаў маглі б стаць рэшткі ўдзельнікаў тых падзей — паводле розных падлікаў тут можа спачываць каля 10 тысяч салдат, — зазначыў загадчык аддзела археалогіі сярэдніх вякоў і Новага часу Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, куратар праекта з беларускага боку Вадзім Кошман. — Сёлета мы працавалі на ўзвышшы вёскі, дзе, мяркуем, якраз канцэнтраваліся і адпачывалі салдаты і цывільныя асобы. У адной з траншэй сустрэліся матэрыялы, што якраз датычаць альбо часоў пераправы 1812 года, альбо вясны 1813-га, калі мясцовыя жыхары — хутчэй за ўсё, вясной — закопвалі парэшткі жывёл і непатрэбную амуніцыю. На плошчы 50 — 60 квадратных метраў выявілі некалькі аб'ектаў, дзе былі косткі. Пазней іх даследуюць спецыялісты, каб расставіць усе кропкі над «і». Але знойдзеныя рэшткі дакладна адносяцца да 1812 года. Сведчаннем таму — гузікі некалькіх падраздзяленняў вялікай арміі Напалеона, прынамсі, 57-га лінейнага палка, 1-га палка артылерыі.

Падчас сёлетніх раскопак давялося сустрэцца з французскім даследчыкам Жэромам Бакурам, інжынерам па адукацыі, доктарам фізікі, які апошнія дзесяць гадоў амаль увесь вольны час аддае даследаванню гісторыі, звязанай з эпохай Напалеона.

— У 2009 годзе я пазнаёміўся з археолагамі, і мы задумалі правесці раскопкі на Бярэзіне, — распавёў Жэром, з якім мы гутарым дзякуючы перакладчыцы Ірыне Мацюшэўскай. — Перш за ўсё хацелася вырашыць тры задачы. Устанавіць месца знаходжання мастоў, па якіх ішла пераправа французскай арміі, знайсці брацкія магілы і адшукаць месца, дзе была генеральная стаўка Напалеона. Архівы сведчаць, што яна магла знаходзіцца на хутары Заніўкі, непадалёк ад Студзёнкі. Атрымаўшы адпаведны дазвол ад беларускіх улад і дамовіўшыся з Нацыянальнай акадэміяй навук, летась сумесна з беларускімі археолагамі мы прыступілі да раскопак. Французскі бок часткова фінансуе гэты праект.

Вось такое атрымалася навуковае партнёрства, карыснае і цікавае для абодвух бакоў.

## ДАВЕДНІК ПА БЯРЭЗІНЕ

Дарэчы, бацька Жэрома быў вядомым спецыялістам па гісторыі Напалеона. Ужо пад канец свайго жыцця вельмі зацікавіўся Беларуссю, куды неаднаразова прыязджаў. Апублікаваў шмат даследаванняў, звязаных з напалеонаўскай тэмай. Адно з іх прысвечана бітве пад Барысавам (сапраўдны даведнік па Бярэзіне!) і носіць назву «Бярэзіна — ваенная перамога». Бо, нягледзячы на тое, што ў свядомасці французаў Бярэзіна — гэта поўнае паражэнне і катастрофа, патлумачыў Жэром, у ваенным, стратэгічным плане для Напалеона быў тут і элемент перамогі, паколькі палкаводцу ўдалося ўцячы ад рускіх.

У бацькі французскага даследчыка скласліся добрыя адносіны з Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, кіраўніцтвам Барысаўскага раёна. Дзякуючы і яго намаганням у 1996 годзе непадалёк ад вёскі Брылі, каля Стахаўскага лесу, быў усталяваны помнік ахвярам вайны для ўвекавечання памяці тых, хто пайшоў у нябыт.

Сын прадоўжыў справу Бакура-старэйшага, але ўжо пасля таго, як бацькі не стала. З 2006 года шмат часу праводзіць у архівах і ўсё больш паглыбляецца ў падзеі 1812 года.

Цікава было даведацца, што ў Францыі ў 1966 годзе створаны Цэнтр захавання імператарскага замка Пон-дэ-Брык, у якім у свой час размяшчалася генеральная стаўка Напалеона. Першапачаткова мэтай арганізацыі было захаванне замка пры ўездзе ў даволі буйны горад Булонь-сюр-Мер. Замак хацелі разбурыць, каб пабудаваць аб'язную шашу. Члены цэнтра, у тым ліку і Жэром Бакур, дабіліся таго, што старадаўнюю пабудову не знішчылі, але часу і намаганняў гэта заняло нямала. Цяпер замак уваходзіць у спіс культурнай спадчыны Францыі.

— Потым на аснове першай суполкі быў створаны Цэнтр Напалеонаўскіх даследаванняў, у які ўваходзіць каля 200 чалавек, — тлумачыць мой французскі суразмоўца. — Працуем у некалькіх кірунках. Галоўныя — арганізацыя паездак на месцы напалеонаўскіх бітваў і публікацыя раней не выдадзеных матэрыялаў. Наш бюджэт складаецца са штогадовых унёскаў членаў арганізацыі. Мая роля ў ёй — усё, што звязана з Беларуссю і асабліва Бярэзінай. Раз на два гады выпускаем альманах «Напалеонаўскія даследаванні» накладам 600 асобнікаў з лагатыпам, на якім адлюстраваны



*Графічная фіксацыя археалагічных аб'ектаў у дыягнастычнай траншэі.*

замак Пон-дэ-Брык. Новы нумар альманаха ўбачыў свет у ліпені гэтага года. Большая яго частка прысвечана матэрыялам канферэнцый «Каладзееўскія чытанні», якія праводзяцца ў Барысаве. Для публікацый мы адабралі самыя цікавыя даклады за 2011 — 2013 гады і пераклалі іх на французскую мову.

Пачынаючы з 1997 года прадстаўнікі Цэнтра Напалеонаўскіх даследаванняў штогод напрыканцы лістапада прыязджаюць на Бярэзіну, каб паўдзельнічаць у памятных цырымоніях, прысвечаных падзеям 1812 года. Кожны раз у складзе групы і Жэром. З 2006 года вялася актыўная падрыхтоўка да леташніх і сёлетніх раскопак: шукалі ў архівах адпаведныя дакументы, сустракаліся з навукоўцамі і краязнаўцамі, каб устанавіць месцы, найбольш цікавыя для даследаванняў.

## ГАВОРАЦЬ АРТЭФАКТЫ

Калі беларускія і французскія археолагі задумалі гэты праект, шмат размоў было пра тое, што каля Студзёнкі ўжо ўсё даўно перакапана і даследавана. На самой справе афіцыйныя і неафіцыйныя пошукі артэфактаў вяліся тут з 1813 года. Апошнія, афіцыйныя, — у 1960-м.

— Калі ў 2012 годзе мы прыехалі на раскопкі, шмат было сумненняў: ці знойдзем штонебудзь наогул, — тлумачыць Жэром. — Аднак нас чакала добрая навіна. Мы даследавалі месца, дзе паводле разлікаў быў мост, па якім ішла пераправа. І знайшлі вялікую колькасць археалагічных аб'ектаў, якія сведчаць: хутчэй за ўсё, менавіта тут і знаходзіўся мост! Акрамя гэтага знайшлі сляды слупоў — магчыма, асновы напалеонаўскага збудавання. Зразумела, французы абараняліся, не давалі рускім войскам падысці. Нашы пошукі дазволілі больш-менш дакладна ўстанавіць, дзе праходзіла лінія фронту. Армія Напалеона, якая дайшла з Масквы да Барысава, мела прыкладна 40 тысяч салдат і амаль столькі ж цывільных людзей, якія суправаджалі войска. Той факт, што на вялікай адлегласці ад пераправы знаходзяцца цікавыя рэчы, сведчыць: французы, хоць і былі тут усяго тры дні, займалі вялікую тэрыторыю.

На працягу двух сезонаў археолагі адшукалі значна больш артэфактаў, чым разлічвалі. Самы цікавы аб'ект — кавалкі драўніны, якія, на думку навукоўцаў, з'яўляюцца рэшткамі моста. А ўвогуле адкапалі каля 300 прадметаў, якія адносяцца да напалеонаўскай эпохі. Сярод іх — гузікі, ядры, элементы стралковай зброі. Дарэчы, усе знаходкі — уласнасць Рэспублікі Беларусь і захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук.

— Рарытэты цікавяць мяне перш за ўсё таму, што яны могуць «гаварыць», — працягвае Жэром. — Вось, напрыклад, гузік ад салдацкай амуніцыі 44-га палка, які ўваходзіў у склад дывізіі Партуно. Вядома, што яе салдаты і афіцэры патрапілі ў палон, таму аніяк не маглі знаходзіцца пад Барысавам. Напрошваецца дзве высновы: або гэта былі салдаты, якія дэзерціравалі, або хтосьці завалодаў іх формай. У любым выпадку, гэта факт, які не знойдзеш ні ў адным падручніку. Тут самі рэчы распавядаюць гісторыі. І мяне гэта вельмі захапляе. Хацелася б устанавіць месцы брацкіх пахаванняў, бо іх могуць знайсці чорныя капальнікі і разрабаваць. Лічу, еўрапейскія краіны павінны аддаць даніну павагі загінуўшым і пахаваць іх згодна са звычаямі сваіх дзяржаў. Канечне ж, матэрыялы даследаванняў будуць надрукаваны ў альманаху. Але хачу падкрэсліць: мы не імкнёмся зрабіць пераварот у гісторыі.

— Велізарная колькасць матэрыялаў, на жаль, ужо згублена, — далучаецца да нашай размовы Вадзім Кошман. — Іх збіралі на працягу XIX і ўсяго XX стагоддзяў. Артэфакты разыходзіліся, як сувеніры. Многія рэчы сталі здабыткам калекцыянераў, бізнесменаў. Гэтыя калекцыі існуюць афіцыйна, аднак з-за таго, што дакладна невядома, з якога месца паходзяць рарытэты, іх гістарычная вартасць значна зніжаецца. Ды і ў навукоўцаў заўсёды няма даверу да такой інфармацыі. А весці раскопкі было вельмі цікава яшчэ таму, што пачынаючы з XI стагоддзя на гэтым месцы быў вялікі курганны могільнік — хутчэй за ўсё, дрыгавічоў. Навукоўцы вывучаюць абсалютна ўсе аб'екты, якія сустракаюцца, а тут адшуканы матэрыялы ад каменнага веку і да Першай і Другой сусветных войнаў. Таму падыходзім да вывучэння рэгіёна ў шырокім гістарычным аспекце, каб не было хібаў і «белых плям».

## ЛЕГЕНДЫ ПРА «НАПАЛЕОНАЎСКІ СКАРБ»

Не ўтрымалася, каб не запытаць у Жэрома наконт так званага «напалеонаўскага скарбу», тэма якога да нашых дзён не дае спакою як гісторыкам, так і аматарам даўніны. У адказ пачула, што ў Францыі словазлучэнне «напалеонаўскі скарб» — зусім не першае, што ўзгадваецца ў сувязі з падзеямі 1812 года пад Барысавам.

— Калі прыехаў на Бярэзіну і паслухаў размовы пра прыхаваныя скарбы, мне прыйшла ў галаву іншая інтэрпрэтацыя гэтых легенд, — патлумачыў даследчык. — Сапраўды, з Масквы везлі трафеі, па некаторых дадзеных, на паўтара тысячах павозак. Але я не думаю, што салдаты, якія тры дні стрымлівалі націск рускіх, мелі час, каб гэтыя каштоўнасці закапаць. Наадварот, у мяне ёсць іншая гіпотэза. Магчыма, рускія, якія знаходзіліся тут даўжэй, захапілі тое, што было скрадзена ў іх у Маскве. Салдаты, кожны пакрыху, маглі ўсё гэта расцягнуць і прыхаваць, каб потым вярнуцца па свае каштоўнасці. Не думаю, што размова можа ісці пра вялізны скарб. Яшчэ адзін фактар, пра які нельга забываць: французскія салдаты вельмі мерзлі, ім не хапала ежы. Зразумела, яны гатовы былі аддаць залатую манету за кавалак хлеба. Не верыцца, што яны маглі штосьці хаваць. А як вярнуцца з Францыі па каштоўнасці? Сапраўдны скарб і для беларусаў, і для французаў — сама гэтая мясцовасць, перліна, якая захавалася ў першапачатковым выглядзе. Добрая перспектыва, на мой погляд, для развіцця турызму ў Беларусі. Толькі пры адной умове: гэтыя мясціны застануцца некранутымі. У Студзёнцы шмат драўляных дамоў — і гэта цудоўна. Не хацелася б пабачыць тут гасцініцу ці іншыя пабудовы на самім полі. Інфраструктуру можна размясціць і крыху далей. Каб людзі, прыехаўшы сюды, маглі лепш уявіць, што і як адбывалася тут два стагоддзі таму.

***

Калі вам пашчасціць наведаць гэтыя памятныя мясціны, зможаце адчуць дух падзей 200-гадовай даўнасці, паразважаць над шматлікімі пытаннямі, якія яшчэ і цяпер застаюцца спрэчнымі. Магчыма, некаторыя таямніцы падштурхнуць вас да таго, каб спасцігнуць глыбіню падзей, якія адбываліся тады на тэрыторыі Беларусі.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

# Чорна-белае люстэрка мінулага

Не трэба вынаходзіць машыну часу, каб прайсціся па вуліцах пасляваеннай Германіі, нават зазірнуць у вочы яе жыхарам. Цікавае падарожжа ў мінулае прапануе нямецкая фотамастачка Хельга Парыс, чыя выстаўка працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.






*Фота з сайта www.hatecantz.de*

На адкрыццё экспазіцыі, якая выклікала вялікую цікавасць прэсы і грамадскасці, прыехала і сама аўтар — спадарыня Парыс. Беларускім гледачам было прадстаўлена 133 чорна-белыя працы, зробленыя ў перыяд з 1968 па 1996 гады. Заўважна, што фатаграфія — не проста захапленне, а частка жыцця. Мужнасць і цярпімасць дапамаглі аўтарцы дакладна адлюстраваць побыт пасляваеннай Усходняй Германіі, а душэўная далікатнасць — прачуць кожнае імгненне, спыненае фотааб'ектывам. І не мае сэнсу, што гэта закінуты дом на берлінскай вуліцы ці постаці нямецкіх нефармалаў. Мастачку цікавіць паўсядзённасць, звычайныя жыццёвыя моманты. Мабыць, таму, што менавіта яны складаюць лёс чалавека.

«У Хельгі ёсць вялікі дар — паказваць унутраныя імкненні і жаданні чалавека», — падзялілася думкамі Інка Шубэ, куратар выстаўкі, кіраўнік аддзела фатаграфіі і медыя-арту ў музеі Шпрэнгель у Гановеры.

Работы фатографа розныя. Дынамічная экспрэсія адчуваецца па здымку «Балгарскія танцоўшчыцы», дзе некалькі жанчын у прыгожых строях бестурботна усміхаюцца і размаўляюць. І наадварот, фатаграфія шматкватэрнага дома, дзе, здаецца, пахне сумессю хатніх страў, дыму і вугалю, пакідае ў сэрцы водгук меланхоліі і смутку. Большасць здымкаў сабрана ў серыі: «Берлін 1974 — 1982 гг.», «Трансільванія», «Берлінская моладзь», «Жанчыны тэкстыльнага камбіната», «Смецяры», «Аўтапартрэты» і іншыя.

Хельга Парыс ніколі не вучылася тонкасцям фатаграфіі — пачынала як аматар. Нягледзячы на гэта, яе вобразы «дыхаюць» чароўнай энергетыкай, што адгукаецца недзе ў падсвядомасці і магнітам прыцягвае ўвагу. Ва ўніверсітэце фотамастачка атрымала спецыяльнасць «Дызайнер адзення», а фотакамеру ўзяла ў рукі, каб здымаць сваіх дзяцей.

«Аднойчы да нас у госці зайшоў знаёмы, убачыў на стале здымак «Дзеці з маскамі» і параіў мне займацца фатаграфіяй. Я вырашыла паспрабаваць», — прызналася фотамастачка. Праз некаторы час пад увагу не аб'ектыва трапілі суседзі, але самае цікавае пачалося, калі спадарыня Парыс выйшла на вуліцу.

«Я хадзіла да кавярні, бары і рабіла там здымкі. Гэтыя месцы перапоўнены людзьмі нават днём, бо многія працуюць у начныя змены. Мяне цікавіла атмасфера зносін, якая там панавала. Я садзілася за стол, дзе звычайна збіраюцца заўсёднікі, адкладвала ўбок камеру і гутарыла з імі. Праз некалькі хвілін хтосьці абавязкова прасіў сфатаграфавацца. Ніхто не сароме́ўся камеры», — узгадала Хельга Парыс.

Гісторыя ўзнікнення серыі «Жанчыны на камбінаце адзення» таксама цікавая. Ідэя з'явілася, калі мастачка была ў краме, стаяла ў чарзе. Яна бачыла, як змяняюцца твары жанчын: напружаныя ў чаканні, але спакойныя і задаволеныя каля касы. Так Хельга вырашыла зрабіць шэраг партрэтаў работніц камбіната: прасіла іх не пазіраваць, не ўсміхацца, а быць такімі, якія ёсць.

Кажуць, што яе фатаграфіі — быццам мост паміж мінулым і сучаснасцю. Хельга Парыс нарадзілася ў 1938 годзе. Дзяўчынка правяла маленства ў гарадку, дзе знаходзілася самае вялікае падраздзяленне Вермахта, а пасля савецкія войскі пабудавалі там штаб-кватэру. Дарослай яна вырашыла знайсці і сфатаграфаваць у парку каля дома свае дзіцячыя жахі і перажыванні. «Я ўсё думала: як засняць гэтае мястэчка? Адна фатаграфія літаральна выслізнула, бо камера выпала ў мяне з рук. Прыйшло разуменне, што гэта і ёсць сутнасць успамінаў — не ўсё мы бачым выразна, штосьці застаецца расплывістым», — расказала Хельга Парыс.

Чаму на яе фотаздымках няма сучаснасці? «На самай справе я вельмі цікаўлюся сучаснай фатаграфіяй, падыходамі і ідэямі маладых мастакоў, але гэта іх час. Усё, што я зараз здымаю на лічбавую камеру (падарожжа ці сям'я), прызначана толькі для мяне самой. Гэта не таямніца, але і не здабытак грамадскасці. Я ўжо шмат гадоў не раблю чорна-белыя здымкі», — патлумачыла аўтарка.

Творчасць Хельгі Парыс займае выбітнае месца ў нямецкай фатаграфіі. З 1996 года яна з'яўляецца членам Берлінскай акадэміі мастацтваў. Прэм'ера выстаўкі фотамастачкі адбылася год таму ў Лейпцыгу, пасля чаго фотаработы выправіліся ў сусветнае турнэ, адным з этапаў якога і стаў Мінск.

Мерапрыемства арганізавана Нацыянальным гістарычным музеем, Інстытутам імя Гётэ ў Мінску і Цэнтрам фатаграфіі падчас Тыдняў Германіі ў Беларусі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Пяшчота ў колеры

Вядомы беларускі мастак Алег Скавародка прадставіў у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва персанальную выстаўку «Жывапіс. Паэзія колеру».

Віцебскі жывапісец — упэўнены і энергічны майстар з уласным творчым почыркам і поглядам на сусвет. Яго работы вызначаюцца буйствам сакавітых колераў, напружанай і фармальна выбудаванай кампазіцыяй, жывой повяззю з прыродай. Каля палотнаў майстра саграваешся. У іх ёсць цеплыня і шчырасць, увага да спрадвечных турбот чалавечага існавання. Мастак даследуе жыццё вакол сябе: малюе вёскі з архаічнымі драўлянымі хатамі; магутныя дрэвы-тэмы, над якімі рассцілаюцца белыя абрусы-аблокі; панарамныя пейзажы, напоеныя пяшчотай колераў; нацюрморты з класічнымі атрыбутамі рэчыўнага свету, сярод якіх — кветкі, садавіна, гародніна, зеляніна, кераміка… Яго работы адрознівае фактурнасць, матэрыяльнасць, фармальная стылізацыя, вобразны сімвалізм. Алег Скавародка не шкадуе гучных акордаў, адмаўляе шэрасць, спакой, млявасць. Але не перабольшвае кантраснасць, змякчае напружанне паўтонамі, ценямі. Пры гэтым упэўнена і смела абагульняе форму. Мастак не прыстасоўваецца да густаў пакупнікоў і запатрабаванняў рынку. Галоўным для яго заўжды было і застаецца імкненне выказаць пачуцці да блізкіх яму людзей і роднага краю.



*«Мастак і муза», 2013. Палатно, алей.*



*«Восеньскія свечкі», 2001. Палатно, алей.*

Алег Аляксандравіч нарадзіўся на Лепельшчыне (Віцебская вобласць) у 1948 годзе, скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, браў удзел у выстаўках беларускіх мастакоў у Англіі, Францыі, Эстоніі, Расіі. Работы віцебскага творцы знаходзяцца ва ўласнасці Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Музея сучаснага мастацтва, мастацкіх музеяў Магілёва, Гродна, Віцебска, Полацка, Смаленска, Пскова, Волагды, Разані, Шчэціна (Польшча), Франкфурта-на-Одэры (Германія).

**Таццяна ШЫМУК**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2601
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.10.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4384
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
13040
ISSN 0024-4686
9770024468001